*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*



# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 30 студзеня 1987 г. № 5 (3363) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.

# ІНФАРМАЦЫЙНАЕ ПАВЕДАМЛЕННЕ

## аб Пленуме Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Савецкага Саюза

**27—28 студзеня 1987 года адбыўся чарговы Пленум Цэнтральнага Камітэта КПСС. На разгляд Пленума ўнесена пытанне «Аб перабудове і кадравай палітыцы партыі». З дакладам па гэтаму пытанню выступіў Генеральны сакратар ЦК КПСС М. С. Гарбачоў.**

**Удзельнікам Пленума была прадастаўлена магчымасць папярэдне азнаёміцца з тэзісамі даклада тав. Гарбачова М. С., а таксама з праектам Закона СССР аб дзяржаўным прадпрыемстве (аб'яднанні) і аглядам пісьмаў працоўных па пытаннях перабудовы і кадравай палітыкі.**

**У спрэчках па дакладу выступілі тт. І. К. Палазкоў —першы сакратар Краснадарскага крайкома КПСС, М. М. Слюнькоў—першы сакратар ЦК Кампартыі Беларусі, Г. І. Марчук — прэзідэнт Акадэміі навук СССР, В. І. Варатнікоў — Старшыня Савета Міністраў РСФСР, В. М. Голубева — дырэктар Іванаўскай ткацкай фабрыкі імя С. М. Кірава, М. І. Рыжкоў—Старшыня Савета Міністраў СССР, У. В. Шчарбіцкі—першы сакратар ЦК Кампартыі Украіны, Б. М. Ельцын—першы сакратар Маскоўскага гаркома КПСС, Г. А. Арбатаў — дырэктар Інстытута ЗША і Канады Акадэміі навук СССР, Ю. П. Салаўёў —першы сакратар Ленінградскага абкома КПСС, Ю. В. Пятроў — першы сакратар Свярдлоўскага абкома КПСС, Н. Д. Цярэшчанка — старшыня калгаса «Шлях да камунізму» Сцяпноўскага раёна Стаўрапольскага краю, А. А. Грамыка — Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР, В. С. Косцін — брыгадзір комплекснай брыгады шахты «Зімінка» Пракоп'еўскага вытворчага аб'яднання па здабычы вугалю, Кемераўская вобласць, Г. В. Колбін — першы сакратар ЦК Кампартыі Казахстана, С. І. Манякін — першы сакратар Омскага абкома КПСС, Г. А. Ягадзін — міністр вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі СССР, Ф. В. Папоў — першы сакратар Алтайскага крайкома КПСС, М. С. Саломенцаў —старшыня Камітэта партыйнага кантролю пры ЦК КПСС, У. П. Ціхаміраў — токар Маскоўскага электрамеханічнага завода імя Уладзіміра Ільіча, А. П. Панамароў — першы сакратар Белгародскага абкома КПСС, У. М. Вялічка — міністр энергетычнага машынабудавання СССР, Д. І. Паціяшвілі—першы сакратар ЦК Кампартыі Грузіі, М. А. Ульянаў—старшыня праўлення Саюза тэатральных дзеячаў РСФСР, Д. К. Маторны—старшыня калгаса імя Кірава Белазерскага раёна Херсонскай вобласці Украінскай ССР, С. Л. Сакалоў — міністр абароны СССР, Ю. А. Квіцінскі — Надзвычайны і Паўнамоцны пасол СССР у Федэратыўнай Рэспубліцы Германіі, Ф. Т. Маргун — першы сакратар Палтаўскага абкома Кампартыі Украіны, П. П. Грышкявічус — першы сакратар ЦК Кампартыі Літвы, В. К. Месяц — першы сакратар Маскоўскага абкома КПСС, І. Б. Усманхаджаеў — першы сакратар ЦК Кампартыі Узбекістана, У. І. Далгіх — сакратар ЦК КПСС, А. М. Масаліеў — першы сакратар ЦК Кампартыі Кіргізіі, В. І. Сітнікаў — першы сакратар Іркуцкага абкома КПСС.**

**З заключным словам выступіў Генеральны сакратар ЦК КПСС тав. Гарбачоў М. С.**

**Пленум прыняў па абмеркаванаму пытанню разгорнутую пастанову, якая публікуецца ў друку.**

**Пленум прызнаў мэтазгодным адобрыць у якасці асновы праект Закона СССР аб дзяржаўным прадпрыемстве (аб'яднанні), маючы на ўвазе ў далейшым вынесці яго на ўсенароднае абмеркаванне.**

**На Пленуме ЦК КПСС разгледжаны арганізацыйныя пытанні.**

**Пленум выбраў кандыдата ў члены Палітбюро ЦК КПСС тав. Слюнькова М. М. сакратаром ЦК КПСС.**

**Пленум выбраў сакратара ЦК КПСС тав. Якаўлева А. М. кандыдатам у члены Палітбюро ЦК КПСС.**

**Пленум выбраў сакратаром ЦК КПСС тав. Лук'янава А. І.**

**Прынята рашэнне аб вызваленні тав. Кунаева Д. А. ад абавязкаў члена Палітбюро ЦК КПСС у сувязі з яго выхадам на пенсію.**

**Пленум вызваліў тав. Зімяніна М. В. ад абавязкаў сакратара ЦК КПСС у сувязі з выхадам на пенсію па стану здароўя.**

# АБ ПЕРАБУДОВЕ І КАДРАВАЙ ПАЛІТЫЦЫ ПАРТЫІ

## *Тэзісы даклада Генеральнага сакратара ЦК КПСС М. С. Гарбачова*

## на Пленуме ЦК КПСС 27 студзеня 1987 года

На абмеркаванне Пленума выносіцца пытанне, якое мае першараднае значэнне для паспяховай рэалізацыі палітычнай стратэгіі, распрацаванай красавіцкім (1985 года) Пленумам ЦК і XXVII з'ездам КПСС, — пытанне аб перабудове і кадравай палітыцы партыі. Яно разглядаецца ў шырокім сацыяльна-палітычным плане, з улікам урокаў мінулага, характару перажываемага моманту і задач на будучае.

Як вядома, красавіцкі Пленум, XXVII партыйны з'езд адкрылі шлях аб'ектыўнаму крытычнаму аналізу існуючага ў грамадстве становішча, прынялі гістарычныя для лёсу краіны рашэнні. У грамадстве беспаваротна пачалася перабудова, зроблены на гэтым шляху першыя крокі. Першы палітычны вынік заключаецца ў тым, што ў жыцці савецкага грамадства адбываюцца буйныя перамены, набіраюць сілу пазітыўныя тэндэнцыі. Палітычная лінія XXVII з'езда, практычная дзейнасць партыі па яе ажыццяўленню, сама перабудова атрымалі шырокую падтрымку савецкага народа.

Разам з тым змяненні да лепшага адбываюцца марудна, справа перабудовы аказалася больш цяжкай, прычыны і карані праблем, якія накапіліся ў грамадстве, — *больш глыбокімі*, чым гэта ўяўлялася раней. Вось чаму ёсць неабходнасць зноў вярнуцца да аналізу тых праблем, з якімі сутыкнулася партыя і савецкае грамадства ў апошнія гады, што папярэднічалі красавіцкаму Пленуму ЦК КПСС, зразумець прычыны негатыўных працэсаў і выпрацаваць меры, якія паскараюць наш рух, гарантуюць ад паўтарэння памылак.

## I.

Амаль сем дзесяцігоддзяў назад ленінская партыя ўзняла над краінай перамаганосны сцяг сацыялістычнай рэвалюцыі. Дасягненні савецкага народа на шляху сацыялістычных пераўтварэнняў велізарныя і неаспрэчныя. Але любыя, нават самыя грандыёзныя поспехі не павінны засланяць ні супярэчнасцей у развіцці грамадства, ні нашых памылак і хібаў. На пэўным этапе краіна стала страчваць тэмпы руху, пачалі накоплівацца цяжкасці і нявырашаныя праблемы, паявіліся застойныя і іншыя чужыя сацыялізму з'явы.

Вядома, развіццё краіны не спынілася. Сумленна працавалі дзесяткі мільёнаў савецкіх людзей, актыўна, у інтарэсах народа дзейнічалі многія партыйныя арганізацыі і нашы кадры. Усё гэта стрымлівала негатыўныя працэсы, але прадухіліць іх не магло.

У дакладзе робіцца вывад, што ў нядаўнім мінулым у палітыцы і практычнай дзейнасці пачалі пераважаць кансерватыўныя настроі, інерцыя, імкненне адмахнуцца ад усяго, што не ўкладвалася ў прывычныя схемы.

Ступень усведамлення жыццёвых праблем і супярэчнасцей у многім залежала ад стану і развіцця тэарэтычнай думкі. Ленінскае ўказанне аб тым, што каштоўнасць тэорыі — у дакладным паказе «ўсіх тых супярэчнасцей, якія маюць месца ў жыцці», часта проста ігнаравалася. Тэарэтычныя ўяўленні аб сацыялізме ў многім заставаліся на ўзроўні 30—40 гадоў, калі грамадства вырашала зусім іншыя задачы. Сацыялізм, які развіваецца, дыялектыка яго рухаючых сіл і супярэчнасцей,

(Заканчэнне на стар. 2—3).

# АБ ПЕРАБУДОВЕ І КАДРАВАЙ ПАЛІТЫЦЫ ПАРТЫІ

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1).

рэальны стан грамадства не сталі аб'ектам глыбокіх навуковых даследаванняў.

Ленінскія палажэнні аб сацыялізме трактаваліся спрошчана, нярэдка выпустошваліся іх глыбіня і значнасць. Гэта адносіцца і да такіх ключавых праблем, як грамадская ўласнасць, класавыя і міжнацыянальныя адносіны, мера працы і мера спажывання, кааперацыя, метады гаспадарання, народаўладдзе і самакіраванне і рад іншых. Пэўнае хаджэнне атрымалі легкаважкія ўяўленні аб камунізме, розныя прароцтвы і абстрактныя разважанні.

Становішча на тэарэтычным фронце зрабіла негатыўны ўплыў на вырашэнне практычных пытанняў. На працягу дзесяцігоддзяў у практыцы гаспадарання і кіравання кансерваваліся ўстарэлыя метады і, наадварот, некаторыя эфектыўныя эканамічныя формы беспадстаўна адхіляліся. Вытворчасць і стымуляванне працы былі па сутнасці арыентаваны на колькаснае, экстэнсіўнае развіццё.

Адбылося сур'ёзнае аслабленне кантролю за тым, хто і як распараджаецца сацыялістычнай уласнасцю. Яна нярэдка раз'ядалася ведамаснасцю і месніцтвам, станавілася як бы «нічыйнай», бясплатнай, пазбаўленай рэальнага гаспадара, у многіх выпадках стала выкарыстоўвацца для атрымання непрацоўных даходаў. Няправільныя адносіны да кааператыўнай уласнасці выклікалі негатыўныя вынікі для аграрнай і сацыяльнай палітыкі.

Прадузятасці адносна таварна-грашовых адносін і дзеяння закона вартасці, а нярэдка і прамое іх проціпастаўленне сацыялізму як чагосьці чужароднага прыводзілі да валюнтарысцкіх падыходаў у эканоміцы, да недаацэнкі гаспадарчага разліку, «ураўнілаўкі» ў аплаце працы, параджалі суб'ектывісцкія асновы ў цэнаўтварэнні, парушэнні грашовага абарачэння, няўвагу да пытанняў рэгулявання попыту і прапановы. Асабліва цяжкія вынікі мелі абмежаванні гаспадарча-разліковых правоў прадпрыемстваў і аб'яднанняў. Гэта падрывала асновы матэрыяльнага стымулявання, перашкаджала дасягненню высокіх канчатковых вынікаў, вяло да зніжэння працоўнай і сацыяльнай актыўнасці людзей, дысцыпліны і парадку.

Па сутнасці справы ўзнікла цэлая сістэма аслаблення эканамічных інструментаў улады, утварыўся своеасаблівы механізм тармажэння сацыяльна-эканамічнага развіцця, стрымлівання прагрэсіўных пераўтварэнняў, якія дазваляюць раскрываць і выкарыстоўваць перавагі сацыялізму. Карані гэтага тармажэння — у сур'ёзных недахопах функцыяніравання інстытутаў сацыялістычнай дэмакратыі, ва ўстарэлых, а часам і не адпавядаючых рэальнасцям палітычных і тэарэтычных устаноўках, у кансерватыўным механізме кіравання.

Усё гэта адмоўна адбілася на развіцці многіх сфер жыцця грамадства. У матэрыяльнай вытворчасці за апошнія тры пяцігодкі планы па большасці паказчыкаў з пачатку 70-х гадоў не выконваліся. Эканоміка ў цэлым аказалася малаўспрымальнай да новаўвядзенняў, непаваротлівай, якасць значнай часткі прадукцыі перастала адпавядаць сучасным патрабаванням, абвастрыліся дыспрапорцыі ў вытворчасці.

Негатыўныя працэсы закранулі сацыяльную сферу. Паспяхова вырашыўшы пытанні занятасці насельніцтва, забяспечыўшы сацыяльныя гарантыі прынцыповага характару, мы ў той жа час не змаглі поўнасцю рэалізаваць магчымасці сацыялізму ў паляпшэнні жыллёвых умоў, харчовага забеспячэння, арганізацыі транспарту, медыцынскага абслугоўвання, адукацыі, у вырашэнні рада надзённых праблем.

Абазначыліся парушэнні важнейшага прынцыпу сацыялізму — размеркавання па працы. Барацьба з непрацоўнымі даходамі вялася нерашуча. Узраслі ўтрыманскія настроі, у свядомасці многіх людзей пачала ўкараняцца псіхалогія «ураўнілаўкі».

Узнікшыя ў апошнія гады элементы сацыяльнай карозіі негатыўна адбіліся на духоўным настроі грамадства, неяк непрыметна падточвалі высокія маральныя каштоўнасці, якія былі заўсёды ўласцівы нашаму народу і якімі мы ганарымся, — ідэйную перакананасць, працоўны энтузіязм, савецкі патрыятызм. Непазбежны вынік гэтага — зніжэнне цікавасці да грамадскіх спраў, праяўленні бездухоўнасці і скептыцызму, зніжэнне маральных стымулаў працы.

Сур'ёзныя недахопы ў ідэйна-палітычным выхаванні ў многіх выпадках прыкрываліся правядзеннем парадных мерапрыемстваў і кампаній, святкаваннем шматлікіх юбілеяў і ў цэнтры, і на месцах. Свет штодзённых рэальнасцей і свет паказнога поспеху ўсё больш разыходзіліся адзін з адным.

Згубны ўплыў на маральную атмасферу ў грамадстве рабілі факты пагардлівых адносін да законаў, ашуканства і хабарніцтва, заахвочванне ўгодніцтва і славаслоўя.

Ідэалогія і псіхалогія застою адбіліся і на стане сферы культуры, літаратуры і мастацтва. Знізіліся крытэрыі ў ацэнках мастацкай творчасці. Гэта прывяло да таго, што разам з творамі, у якіх узнімаліся сур'ёзныя сацыяльна-маральныя праблемы, адлюстроўваліся рэальныя жыццёвыя калізіі, выходзіла нямала пасрэдных, безаблічных, якія нічога не давалі ні розуму, ні пачуццям.

Пры ўсёй велізарнай рабоце партыі, яе кадраў кіруючыя органы тым не менш не здолелі своечасова і крытычна ацаніць небяспеку нарастання негатыўных тэндэнцый у грамадстве, у паводзінах часткі камуністаў, прыняць рашэнні, якіх настойліва патрабавала жыццё.

Далёка не ўсе партыйныя арганізацыі змаглі ўтрымацца на прынцыповых пазіцыях, рашуча змагацца з негатыўнымі з'явамі, усёдазволенасцю, кругавой парукай, з аслабленнем дысцыпліны, распаўсюджваннем п'янства, не заўсёды даваўся належны адпор ведамаснасці і месніцтву, нацыяналістычным праяўленням.

Парушалася калегіяльнасць у рабоце, адбылося аслабленне ролі партыйных сходаў, выбарных органаў. Многія члены партыі, будучы на кіруючых пасадах, аказаліся па-за кантролем і крытыкай. Часта не спрацоўвалі статутныя гарантыі чысціні партыйных радоў.

Усё гэта сведчыць аб тым, наколькі сур'ёзным аказалася становішча ў розных сферах нашага грамадства, наколькі неабходны глыбокія перамены.

У гэтай абстаноўцы і было ўзнята пытанне аб паскарэнні сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны, аб перабудове. Па сутнасці размова ідзе аб павароце і мерах рэвалюцыйнага характару. Іншага шляху ў нас проста няма, адступаць нам нельга і адступаць няма куды. Курс красавіцкага Пленума ЦК, XXVII з'езда мы абавязаны праводзіць у жыццё паслядоўна і няўхільна, ісці наперад і вывесці грамадства на якасна новы ўзровень развіцця.

Палітбюро лічыць: перабудова — гэта рашучае пераадоленне застойных працэсаў, злом механізма тармажэння, стварэнне надзейнага і эфектыўнага механізма паскарэння сацыяльна-эканамічнага развіцця савецкага грамадства. Галоўная задума нашай стратэгіі — спалучыць дасягненні навукова-тэхнічнай рэвалюцыі з планавай эканомікай і прывесці ў дзеянне ўвесь патэнцыял сацыялізму.

Канчатковая мэта перабудовы — глыбокае абнаўленне ўсіх бакоў жыцця краіны, наданне сацыялізму самых сучасных форм грамадскай арганізацыі, найбольш поўнае раскрыццё гуманістычнага характару нашага ладу ва ўсіх яго рашаючых аспектах — эканамічным, сацыяльна-палітычным і маральным.

Сёння перабудова разгортваецца па ўсяму фронту. Яна набывае новую якасць — ідзе не толькі ўшыркі, але і пранікае ў глыбінныя пласты жыцця. У краіне складваецца новая маральная атмасфера, ідзе пераацэнка каштоўнасцей, усталёўваюцца як актыўна дзеючыя прынцыпы публічнасць, праўдзівасць у ацэнцы з'яў і падзей, непрымірымасць да недахопаў, жаданне паляпшаць справу. Павышаюцца патрабавальнасць і дысцыпліна, арганізаванасць на вытворчасці, стала больш парадку.

Пачаліся работы па карэннаму пераўтварэнню матэрыяльна-тэхнічнай базы, глыбокай рэканструкцыі народнай гаспадаркі на аснове навукова-тэхнічнага прагрэсу, унесены змяненні ў структурную і інвестыцыйную палітыку. Ажыццяўляюцца буйныя меры па ўдасканаленню кіравання, механізма гаспадарання. Выпрацаваны і праводзяцца ў жыццё новыя прынцыпы павышэння заработнай платы, зняты неабгрунтаваныя абмежаванні індывідуальнай працоўнай дзейнасці, заахвочваецца арганізацыя кааператываў у розных сферах вытворчасці і паслуг.

У дакладзе аналізуюцца вынікі выканання плана эканамічнага і сацыяльнага развіцця ў першым годзе пяцігодкі. Пры гэтым падкрэсліваецца, што сёння, калі перабудова знаходзіцца на сваім пачатковым этапе, асабліва важна стаяць на пазіцыях рэалізму, аб'ектыўнай ацэнкі зробленага, глядзець на вынікі работы не толькі з пазіцый мінулага, а галоўнае — зыходзячы з аб'яўленых партыяй планаў і дадзеных абяцанняў. Гэта — адзіна правільны партыйны падыход.

Высока ацэньваючы курс партыі на перабудову, савецкія людзі разам з тым выказваюць неспакой за ход яе практычнага ажыццяўлення. Яны заклікаюць партыю не спыняцца на дасягнутым, дзейнічаць рашуча, ісці наперад, няўхільна праводзіць у жыццё намечаны курс. З гэтага неабходна рабіць палітычныя вывады.

Аналіз стану спраў, вопыт перабудовы з усёй вастрынёй ставяць самае галоўнае пытанне — ці ёсць у нас гарантыі таго, што пачаты працэс пераўтварэнняў будзе даведзен да канца, што ранейшыя памылкі не паўторацца і мы зможам забяспечыць паўнакроўнае развіццё нашага грамадства?

Такія гарантыі ў нас ёсць. Гэта — адзіная воля, агульныя дзеянні партыі і народа, аб'яднаных вопытам перажытага, усведамленнем адказнасці за цяперашняе і будучае сацыялістычнай Радзімы. Гэта — савецкі народ, яго прыхільнасць да сацыялізму. Гэта — наша ленінская партыя, якая валодае велізарным творчым патэнцыялам. Але мы не можам разглядаць гэтыя гарантыі як нешта такое, што дзейнічае незалежна ад нас і пры любых умовах, як бы аўтаматычна. Палітбюро звязвае іх з больш поўным раскрыццём і выкарыстаннем глыбінных магчымасцей сацыялізму як новага грамадскага ладу, а галоўнае — з усебаковым разгортваннем сацыялістычнага дэмакратызму, рэальным удзелам народных мас у вырашэнні ўсіх пытанняў жыцця грамадства.

## II.

Сацыялістычны лад даў працоўным сапраўды шырокія палітычныя і сацыяльна-эканамічныя правы, асабістыя свабоды, даказаў на справе найвялікшыя перавагі савецкай дэмакратыі.

Але паскораны рух наперад сёння магчымы толькі пры ўсямернай актывізацыі чалавечага фактару, далейшым развіцці дэмакратычных форм, уласцівых сацыялізму. У гэтым сутнасць курсу партыі на паглыбленне сацыялістычнага самакіравання народа.

Мы пачалі гэты працэс. Дэмакратызуюцца ўсе сферы жыцця грамадства. Больш паўнакроўным становіцца жыццё партыйных арганізацый, расшыраюцца публічнасць, крытыка і самакрытыка, актыўней дзейнічаюць сродкі масавай інфармацыі, ствараюцца новыя грамадскія арганізацыі. Расце ўдзел працоўных у грамадскіх справах, у кіраванні краінай.

Да дэмакратызацыі савецкага грамадства, кадравай палітыкі партыя падыходзіць з шырокіх пазіцый, маючы на ўвазе ўсе звенні нашай палітычнай сістэмы і ўсе састаўныя часткі кіравання і гаспадарчага механізма.

Першараднае значэнне мае развіццё дэмакратыі на вытворчасці, паслядоўнае ўкараненне сапраўды самакіраўніцкіх асноў. Неабходна ствараць такія ўмовы, укараніць такія формы арганізацыі вытворчасці і жыцця працоўных калектываў, якія дазволяць кожнаму працоўнаму адчуваць сябе сапраўдным гаспадаром свайго прадпрыемства.

Задачы эфектыўнага выкарыстання ўсіх форм непасрэднай дэмакратыі будуць рэалізаваны ў Законе аб дзяржаўным прадпрыемстве (аб'яднанні), праект якога прапануецца вынесці на ўсенароднае абмеркаванне. Намячаемае праектам надзяленне агульных сходаў і саветаў працоўных калектываў рашаючымі паўнамоцтвамі па пытаннях, звязаных з вытворчымі, сацыяльнымі і кадравымі справамі, прывядзе да якаснага ўдасканалення грамадскіх адносін.

Шырокія магчымасці для дэмакратызацыі працэсаў кіравання эканомікай і сацыяльнай сферай маюць калгасы, сацыялістычная кааперацыя ў цэлым. Заслугоўваюць падтрымкі крокі, ужо зробленыя ў многіх рэспубліках, краях і абласцях па расшырэнню кааператыўных форм дзейнасці, якія маюць вялікую перспектыву.

Важнейшым пытаннем развіцця дэмакратыі на вытворчасці з'яўляецца ўвядзенне выбарнасці кіраўнікоў прадпрыемстваў, цэхаў, аддзяленняў, участкаў, ферм і звенняў, брыгадзіраў і майстроў. Пераход на новыя метады гаспадарання, гаспадарчы разлік, самафінансаванне і самаакупнасць, увядзенне дзяржпрыёмкі праводзяць гэту задачу ў практычную плоскасць.

Дэмакратызацыя працэсу фарміравання кіруючых кадраў на аснове паўсюднага прымянення выбарных асноў азначае новы крок наперад, надае прынцыпова іншы характар удзелу працоўных у кіраванні вытворчасцю. У новыя ўмовы ставяцца партыйныя, грамадскія арганізацыі, органы кіравання гаспадаркай. Выбарнасць кіруючых работнікаў на вытворчасці не толькі не падрывае, а, наадварот, умацоўвае адзінаначалле. Арганічнае спалучэнне адзінаначалля і калегіяльнасці паглыбляе і развівае ленінскі прынцып дэмакратычнага цэнтралізму, цэнтралізавана планавага кіраўніцтва з апорай на калектыў, на масы.

Прынцыповым напрамкам дэмакратызацыі Палітбюро лічыць удасканаленне выбарнай сістэмы. Існуючы яе механізм забяспечвае дэмакратычнае фарміраванне і прадстаўніцтва ўсіх слаёў насельніцтва ў Саветах. Але, як і ўсе палітычныя, эканамічныя, сацыяльныя інстытуты, выбарчая сістэма не можа заставацца ў застылым стане, стаяць у баку ад працэсаў, звязаных з перабудовай. Задача заключаецца ў тым, каб даць выбаршчыку магчымасць выражаць свае адносіны да большай колькасці кандыдатур, збавіць працэдуру галасавання ад рада элементаў фармалізму.

Усё больш актуальным становіцца і расшырэнне ўнутрыпартыйнай дэмакратыі, перш за ўсё пры фарміраванні кіруючых органаў партыйных арганізацый усіх узроўняў. У дакладзе ўносяцца па гэтаму пытанню канкрэтныя прапановы.

Дэмакратызацыя грамадства па-новаму ставіць пытанне і аб кантролі за тым, як працуюць партыйныя, савецкія і гаспадарчыя органы, іх кадры. Важнае значэнне мае павышэнне ўзроўню і эфектыўнасці кантролю «знізу» з тым, каб кожны кіраўнік, кожная службовая асоба пастаянна адчувалі сваю адказнасць і залежнасць ад выбаршчыкаў, працоўных калектываў, грамадскіх арганізацый, ад партыі і народа ў цэлым. Мяркуецца ўвесці сістэматычную справаздачнасць усіх выбіраемых і назначаемых службовых асоб, умацаваць дэмакратычныя прынцыпы работы сесій, пастаянных камісій Саветаў, расшырыць публічнасць у дзейнасці дзяржаўных і грамадскіх арганізацый, упарадкаваць сістэму розных праверак і інспекцый.

Сапраўдная дэмакратыя не існуе па-за законам і над законам. У адпаведнасці з устаноўкамі XXVII з'езда трэба будзе правесці вялікую работу па падрыхтоўцы і прыняццю новых законаў, звязаных з развіццём эканомікі і культуры, сацыялістычнага самакіравання, расшырэннем правоў і свабод грамадзян. Падкрэсліваецца, што сацыялістычная дэмакратыя не мае нічога агульнага з усёдазволенасцю, анархіяй, безадказнасцю.

Дзейснасць сапраўднай дэмакратыі залежыць ад таго, наколькі шырокая ў яе сацыяльная база, як выкарыстоўваюцца рэзервы і магчымасці для яе расшырэння. У гэтай сувязі ў дакладзе разглядаюцца пытанні ўдзелу маладога пакалення ў вырашэнні задач перабудовы, вылучэння на кіруючую работу беспартыйных, жанчын.

Сур'ёзная ўвага ўдзяляецца нацыянальным аспектам кадравай палітыкі. Поспехі гэтай палітыкі бясспрэчныя, але мы абавязаны бачыць рэальную карціну і перспектывы развіцця нацыянальных адносін у краіне. Тым больш, што негатыўныя з'явы і дэфармацыі, з якімі мы павялі барацьбу, выявіліся і ў гэтай сферы. Партыйныя арганізацыі абавязаны больш глыбока займацца пытаннямі развіцця нацыянальных і міжнацыянальных адносін, інтэрнацыянальнага выхавання. Любым нацыяналістычным і шавіністычным пошасцям можа паспяхова процістаяць толькі паслядоўны, вытрыманы інтэрнацыяналізм.

## III.

Фармулюючы кадравую палітыку, якая адпавядае задачам перабудовы, Палітбюро ЦК зыходзіць з таго, што поспех яе будзе ў рашаючай меры вызначацца тым, наколькі хутка і глыбока нашы кадры ўспрымуць неабходнасць перамен, наколькі творча і мэтанакіравана будуць праводзіць у жыццё лінію партыі.

За гады сацыялістычнага будаўніцтва ў краіне створан і пастаянна папаўняецца магутны

Дзмітрый БУГАЁЎ

# З АДЧУВАННЕМ ЧАСУ І РУХУ ЛІТАРАТУРЫ

*С. Лаўшук. Кандрат Крапіва і беларуская драматургія. Мінск. «Навука і тэхніка», 1986.*

У СЁННЯШНІМ нашым літаратуразнаўстве адным з самых актыўных і арыгінальных даследчыкаў з'яўляецца Сцяпан Лаўшук. Яго навуковыя здабыткі звязаны пераважна з вывучэннем беларускай драматургіі, на якой сканцэнтраваны галоўныя даследчыцкія намаганні аўтара. Намаганні вельмі плённыя. Яны ўжо далі добрыя вынікі, пра якія пераканальна сведчаць і Лаўшуковы выступленні ў перыёдыцы, і яго грунтоўныя артыкулы, і, вядома ж, кнігі даследчыка «Сучасная беларуская драматургія» (1977), «Станаўленне беларускай савецкай драматургіі» (1984).

Апошняя з гэтых дзвюх кніг, у якой аналізуецца драматургія савецкага часу ад яе вытокаў да пачатку 30-х гадоў, непасрэдна прымыкае да новай працы С. Лаўшука, фактычна з'яўляецца яе першай часткай, бо аўтар цяпер вядзе сваю размову ад пачатку 30-х гадоў. У даследчыка атрымалася цэласнае даследаванне ўсёй беларускай савецкай драматургіі ад Кастрычніка да нашых дзён. Яно ў цэлым дастаткова пераканальнае, заснавана на вялікім фактычным матэрыяле, які аналізуецца з добрым адчуваннем часу і руху літаратуры ў ім.

Як і ў ранейшых працах, у сваёй новай кнізе Сцяпан Лаўшук разглядае беларускую драматургію на шырокім літаратурным фоне, перш за ўсё з улікам тых працэсаў, якія адбываліся ў рускай і ўкраінскай драматургіі і, зразумела, у нашай нацыянальнай літаратуры. Ён вывучае не толькі канчатковы тэкст надрукаваных у нас твораў, але і розныя варыянты некаторых з іх, часам аналізуе і асобныя неапублікаваныя рэчы, напрыклад, крапівінскую байку «Генетычны код, або Асёл у палоску», узятую з архіва пісьменніка, часта спасылаецца на запісы сваіх гутарак з драматургамі, тым жа К. Крапівою, А.Макаёнкам, К. Губарэвічам і іншымі.

У канчатковым выніку С. Лаўшуку ўдалося напісаць змястоўную кнігу, у якой многія драматургічныя творы прааналізаваны не проста дасведчана і цікава, а з належнай глыбінёй і неабходнай мерай крытычнасці, абумоўленай сучасным разуменнем літаратурнага працэсу.

У гэтым наглядна пераконваешся, перачытваючы, скажам, старонкі, прысвечаныя п'есе «Салавей», напісанай З. Бядулем на аснове аднайменнай аповесці. Крытык уважліва супастаўляе абодва творы, падрабязна гаворыць аб тых шматлікіх зменах, якія мусіў зрабіць пісьменнік, працуючы над сцэнічным варыянтам «Салаўя». У прыватнасці, адзначана імкненне аўтара больш канкрэтна сказаць пра час дзеяння ў сваім творы, узмацніць яго гістарычны каларыт, зусім слаба выяўлены ў аповесці. Аднак прыкметнага поспеху ў гэтых адносінах Бядуля не дасягнуў і ў п'есе, падкрэслівае даследчык, звяртаючы ўвагу на асобныя недакладнасці гістарычнага плана, дапушчаныя драматургам. Галоўны ж яго пралік слушна бачыцца Лаўшуку ў тым, што «залішне асучасніў пісьменнік светапогляд сваіх герояў. Яны ў п'есе і думаюць, і дзейнічаюць па закасцянеламу трафарэту, які выпрацаваўся ў 30-я гады для абазначэння класавых супярэчнасцей грамадства мінулых часоў».

Можна вылучыць у кнізе С. Лаўшука і аналіз такіх твораў, як «Кацярына Жарнасек» М. Клімковіча, «Пагібель воўка» Э. Самуйлёнка, «Ірынка» К. Чорнага, «Сымон Карызна» М. Зарэцкага і інш.

Так, разглядаючы «Кацярыну Жарнасек», даследчык, узброіўшыся вывадамі сучаснай гістарычнай навукі, зноў жа доказна паказвае, што ў гэтай п'есе таксама вельмі мала сапраўднага гістарызму, хоць пісьменнік імкнуўся грунтоўна адлюстраваць барацьбу беларускага сялянства супраць прыгнятальнікаў у XVI стагоддзі.

У размове пра п'есу «Пагібель воўка» Э. Самуйлёнка С. Лаўшук паспяхова абвяргае сцвярджэнне беларускай крытыкі даваеннай пары пра тое, нібыта драматургу ў гэтым творы «ўдалося ў паказе ворагаў сацыялістычнага ладу ў краіне пазбегнуць штампаў». Штампаў, наццяжак і перабольшанняў, даводзіць крытык, якраз хапала і ў Самуйлёнка. Наогул, у яго п'есе, піша С. Лаўшук, «вельмі многае даводзіцца прымаць на веру. Дакладней, не прымаць, бо пра якую веру можа ісці гаворка, калі верагоднасць большасці сітуацый у творы шыта, як кажуць, белымі ніткамі. Ён засмучае вельмі некрытычным падыходам да асвятлення класавай барацьбы ў краіне...»

Аналізуючы «Ірынку», С. Лаўшук падкрэслівае, што і ў п'есе К. Чорнага «далёка не ўсе персанажы ахарактарызаваны з належнай псіхалагічнай пераканаўчасцю», што «сацыяльна-бытавы аспект сюжэта» тут «выяўлены з большым майстэрствам», «элементы ж палітычнай драмы», таксама прыкметныя ў творы, «прыўнесены ў сувязі з кан'юнктурай сцэны».

Увогуле, Лаўшук у сваёй кнізе сказаў багата цікавага і значнага пра ўсю беларускую драматургію ад пачатку 30-х гадоў да нашага часу. Але яго кніга называецца «Кандрат Крапіва і беларуская драматургія». Такая пастаноўка даследчыцкай задачы абавязвала буйным планам вылучыць менавіта Крапіву як ключавую, самую значную фігуру ва ўсёй нашай драматургіі савецкай пары. Гэтая ж акалічнасць у многім прадвызначыла і навуковую канцэпцыю даследавання, якая ў кнізе С. Лаўшука праглядваецца ў цэлым выразна. І ўсё ж мне здалося, што аналіз некаторых твораў нашай драматургіі недастаткова натуральна ўвязваецца з творчасцю Крапівы, а даецца проста побач з ёю, побач з разглядам твораў гэтага пісьменніка. Канцэпцыя ж кнігі, вызначаная самім яе загалоўкам, патрабавала іменна ўвязкі, найперш высвятлення ролі Кандрата Крапівы ў развіцці беларускай драматургіі 30-х гадоў і пазнейшага часу. Задача гэтая вельмі складаная. І ў шэрагу выпадкаў С. Лаўшук спраўляецца з ёю паспяхова. Можна спаслацца, напрыклад, на гаворку пра творчасць А. Макаёнка або на разгляд «Брэсцкай крэпасці» К. Губарэвіча, сутнасна звязаныя з крапівінскім уздзеяннем на нашу драматургію. У некаторых іншых выпадках, далёка неадзінкавых, такая сутнасная сувязь адчуваецца намнога слабей, а часам і зусім адсутнічае ці падмяняецца чыста знешняй, а значыць, выпадковай «прывязкай». Гэта пэўным чынам паслабляе канцэптуальныя аспекты ўсяго даследавання, яго ўласна праблемную мэтанакіраванасць. Але строга судзіць аўтара тут, можа, і не выпадае, бо і пры пэўных слабасцях у гэтым сэнсе яго кніга істотна ўзбагачае наша веданне і ўсёй беларускай савецкай драматургіі, і творчасці Кандрата Крапівы ў асаблівасці.

С. Лаўшук (аддадзім яму належнае і тут) у многім свежым вокам паглядзеў на драматургію Крапівы, сказаў пра яе нямала свайго, глыбока вынашанага і сапраўды трапнага. Большыя ці меншыя элементы новага прачытання драматургіі Кандрата Крапівы (а гэта справа вельмі нялёгкая, калі мець на ўвазе ўсё, што ўжо напісана пра творчасць драматурга) ёсць у аналізе, бадай, кожнай з крапівінскіх п'ес; у тым ліку тых, што ўжо даўно сталі класічнымі.

Так, дзесяцігоддзямі крытыка і літаратуразнаўства паўтаралі думку пра выключную прынцыповасць прафесара Чарнавуса са славутай сатырычнай камедыі «Хто смяецца апошнім». Лаўшук, жа, удумліва ўчытаўшыся ў тэкст твора, заўважыў у гэтага прафесара і нешта зусім іншае — панылае рэзанёрства «пра складанасці жыцця, пра немагчымасць адшукаць нягодніка, які навёў на яго такія страшныя і такія несправядлівыя падазрэнні», а таксама праявы звычайнага канфармізму, уласцівага Чарнавусу да таго часу, пакуль ён думаў, што Гарлахвацкі шчыра клапоціцца пра яго.

У адпаведнасці з даўняй нашай традыцыяй С. Лаўшук вельмі высока ацэньвае вобраз малодшага навуковага супрацоўніка Веры з крапівінскай п'есы і дадае, што гэты вобраз «выступае і як своеасаблівы сімвал, увасабляючы будучае, больш разумнае, больш светлае, больш прывабнае». Думка ўжо нетрадыцыйная. Але і яна ўяўляецца слушнай.

Цікава зроблена супастаўленне «Пробы агнём» К.Крапівы з выдатнай п'есай А. Карнейчука «Фронт». Гэтае супастаўленне таксама нясе ў сабе відавочныя элементы навізны і добра падсвечвае канкрэтны аналіз крапівінскага твора.

Разглядаючы драму «З народам», даследчык зазначае, што пісьменнік, хоць ён і «вывучаў вельмі грунтоўна» жыццёвы матэрыял, «крышачку «прамахнуўся» з прататыпамі п'есы. Многім гледачам не спадабалася празрыстасць намёку на асобу аднаго таленавітага беларускага кампазітара, які паслужыў прататыпам. Следства не даяло фактаў яго супрацоўніцтва з акупантамі, і пра гэта ведалі».

Заўвага як быццам зусім прыватная, нават і пададзеная ў форме падрадковай зноскі. Але яна вельмі істотная для разумення ўсяго далейшага лёсу твора і яго рэзка крытычнай ацэнкі сур'ёзнымі даследчыкамі беларускай драматургіі.

Добра піша С. Лаўшук пра характэрныя слабасці пасляваенных лакіровачных п'ес, створаных па рэцэптах тэорыі бесканфліктнасці, у тым ліку пра недахопы ў камедыі «Пяюць жаваранкі» К. Крапівы. Можна, вядома, зазначыць, што крытык у такіх выпадках разумны за кошт самога часу, які ўсё ставіць на сваё месца і робіць сёння відавочным тое, што некалі разгледзець было вельмі няпроста. Але, па-першае, уменне слухаць час, выразна бачыць і разумець яго карэктывы — адна з самых істотных якасцей добрага даследчыка. А па-другое, у нас яшчэ і цяпер нярэдка пішуць пра бесканфліктную драматургію пасляваеннай пары без належнай крытычнасці, так, як быццам сам час не вынес свайго прысуду гэтай драматургіі.

Высока ацэньваючы кнігу С. Лаўшука, не магу не сказаць, што, акрамя ўжо адзначанай недастатковасці ў асвятленні ўзаемадзеяння крапівінскіх твораў з творчасцю іншых беларускіх драматургаў, ёсць у ёй і іншыя пагрэшнасці — спрэчныя моманты, супярэчлівыя мясціны і дробныя няўвязкі прыватнага характару, асобныя палемічныя пераборы...

Пачну з няўвязак і спрэчных момантаў. У пачатку другога раздзела безагаворачна адзначаецца поспех п'есы «Канец дружбы». Гэта ўспрымалася б зусім нармальна, калі б раней, пры канкрэтным аналізе твора, пра яго тэатральную пастаноўку не гаварылася так: «Спектакль па п'есе «Канец дружбы» (1934) рэжысёрамі Л. Літвінавым і Л. Рахленкам быў вытрыманы ў пастановачных традыцыях першай палавіны 30-х гадоў. Колькі ні пярэчыў драматург, аднак так і не здолеў пераканаць рэжысёраў адмовіцца ад схематызму, ад дагматычнай трактоўкі вобразаў і сітуацый». Выходзіць, што пастаноўка была няўдалай. Адсюль вынікае, што п'еса мела поспех адносны, насуперак няўдалай пастаноўцы. Такі намёк Лаўшук дае, зазначыўшы, што чытачы самі «маглі аб'ектыўна разабрацца ў вартасцях драмы». Няхай сабе так. Але там жа гаворыцца і пра тое, што якасці першай крапівінскай п'есы «адкрыліся гледачу не адразу». Гэтае сцвярджэнне таксама ўносіць пэўную няяснасць, бо дазваляе думаць, што «Канец дружбы» ставіўся не толькі Літвінавым і Рахленкам. Але пра іншыя пастаноўкі Лаўшук нічога не кажа. Не ведаю такіх пастановак і я.

Разважаючы пра «Зацікаўленую асобу», даследчык піша, што К. Саннікаву, які ставіў гэтую п'есу ў тэатры імя Я. Купалы, «пэўным чынам удалося... выратаваць спектакль». Зноў жа, цяжка сказаць, адкуль у Лаўшука такія звесткі, бо сваю думку ён нічым не падмацоўвае. А я памятаю іншае: «Зацікаўленая асоба» ў купалаўцаў фактычна праваліласяа — спектакль па ёй ішоў зусім непрацяглы час, бо ніяк не зацікавіў гледача. Тады гэта нават здзівіла. А сёння ўяўляецца заканамерным.

І яшчэ ў сувязі з тэатральнымі пастаноўкамі. «Тэатр, — зазначаецца ў кнізе С. Лаўшука, — мог уключыць у свой рэпертуар і бесканфліктны твор, хоць не такой мерай вырашалася праблема фарміравання сучаснага рэпертуару: сучаснасць у падобных п'есах прысутнічала толькі намінальна».

Пра намінальную прысутнасць сучаснасці ў кан'юнктурна-лакіровачнай драматургіі сказана, вядома, зусім слушна. Аднак праблема заключалася яшчэ і ў тым, што ўключыць бесканфліктны твор у свой рэпертуар тэатр і сапраўды, увогуле кажучы, мог, але не было ў яго сілы прымусіць гледача пайсці на такі твор. І таму самыя слабыя з бесканфліктных п'ес безнадзейна правальваліся. А былі і такія, што і да сцэны не даходзілі, настолькі відавочнай была іх немач.

Не вельмі дакладны С. Лаўшук тады, калі піша, нібыта быкаўскія творы «з поспехам перарабляюцца або на мове кінамастацтва», «або на мове тэлеэкрана», а потым яшчэ паўтарае, што «яны хораша прагучалі не толькі ў кіно і на тэлебачанні, але і на опернай і балетнай сцэне».

Пра оперу і балет гаварыць не рызыкну, а што датычыць кіно і тэлебачання, дык тут крычаць «ура» яшчэ вельмі рана, бо не загучала яшчэ па-сапраўднаму быкаўская проза ні ў кіно, ні на тэлебачанні. Выключэнне складае толькі кінафільм Л. Шапіцькі «Узыходжанне» па «Сотнікаву», кінафільм, які па таленавітасці не ўступае быкаўскай аповесці. Ёсць усе падставы спадзявацца, што падзеяй для беларускага кіно стане таксама карціна, знятая М. Пташуком па «Знаку бяды». А астатняе? Астатняе часта зроблена з такімі стратамі, што нават трохі боязна становіцца за рэпутацыю В. Быкава, хаця вінаваты не ён, нават у тых выпадках, калі сам піша сцэнарыі, а рэжысёрскі дыктат, кінематаграфічная перастраховачнасць, якую не можа адолець і выдатны быкаўскі аўтарытэт пісьменніка і грамадзяніна. Калі б мы ведалі Быкава толькі па экранных версіях яго твораў, мы б у лепшым выпадку ўспрымалі яго як пісьменніка не без вартасцей, але вельмі сярэдняга, а зусім не выдатнага. На шчасце, быкаўская проза выдаецца вельмі шырока і чытаецца надзвычай актыўна. Таму нават кіно і тэлебачанне не могуць загубіць яго аўтарытэт, хаця робяць для гэтага шмат. Трывожны голас у гэтай сувязі прагучаў яшчэ дзесяцігоддзе таму назад. «Касяком пайшлі фільмы «па Быкаву»...

Ва ўсіх амаль фільмах «па Быкаву» зніклі той агонь і той холад вайны, які мы **фізічна** (разам з героямі) адчуваем, чытаючы яго прозу. І галоўнае— без чаго і зусім няма Быкава — знікла вастрыня сацыяльна-маральных калізій.

У Лаўшуковай кнізе гаворыцца таксама пра неарганізаванасць і бескантрольнасць у абыходжанні з быкаўскімі творамі на тэатральнай сцэне, работнікі якой, дадам ад сябе, парушаюць аўтарскае права, калі яны, як вынікае з напісанага крытыкам, нават не пытаюць дазволу ў пісьменніка на інсцэніроўкі. Думаецца, што гэта абсалютна недапушчальная з'ява. І таму я ніяк не магу зразумець Лаўшука, калі ён з дзіўнай заспакоенасцю зазначае: «Ну, а самому пісьменніку давядзецца проста прыняць такі тып узаемаадносін з тэатрамі, паколькі іншы яшчэ не склаўся». Нічога сабе парада!

Супярэчлівымі здаюцца асобныя сцвярджэнні ў цікавай размове пра «Рот фронт» Б. Мікуліча. Так, даследчык адзначае, што ў п'есе «аўтарская задума цалкам плённая», хаця сам жа некалькімі радкамі раней пісаў пра гэты ж твор: «Свядомае адмаўленне ад псіхалагізму, замена індывідуальных характараў абагульненымі сацыяльнымі маскамі, устаноўка на плакатнасць, «дэманстрацыйную» ўзбуйненасць паказу падзей саслужылі п'есе дрэнную службу». Дык што ж у такім разе застаецца ад той цалкам плённай задумы? У чым яе пленнасць?

Па справядлівасці крытычна ацэньваючы аднаактоўку К. Чорнага «Базылевічава сям'я», створаную ў 1938 годзе, С. Лаўшук тлумачыць бясспрэчныя слабасці гэтага твора тым, што пісьменнік нібыта падпаў тады пад нейкую магію: «Магія — гэта заўсёды хвароба, а захварэць нядоўга любому, нават калі ў цябе цалкам адсутнічаюць перадумовы для гэтага». Сама фразеалогія тут як быццам трошкі і містыкай аддае. А містыкі не было, быў уплыў часу. Ён жа, час, дакладней сказаць, адмоўнае ў часе, бывае, вельмі моцна ціснe і на самых выдатных. Што давялося перажыць К. Чорнаму ў 1938 годзе, не

(Заканчэнне на стар. 6—7).

**Леанід ГАЛУБОВІЧ,**
*аглядальнік «ЛіМа»*

# ПАДБАЦЬ ПАРА ПРА СПЕЛЫ НАМАЛОТ

Яшчэ адзін год за парогам нашага жыцця. Якія творчыя здабыткі прынёс ён нашай паэзіі? Якія выдаткі?

На жаль, даводзіцца прызнаць, што большасць выдадзеных кніг, часопісных і газетных публікацый яшчэ раз засведчылі творчую інертнасць многіх старэйшых і маладзейшых паэтаў. Зацікаўленага дыялога паміж паэтамі і чытачамі не адбылося. Я не хачу сказаць, што ўсё, што выйшла з-пад пяра паэтаў, не было пазначана прафесійным знакам якасці — майстэрствам. Але як часта гэтым майстэрствам прыкрываецца штучная, надуманая гаворка пра нешта і ні што, а то і проста перапевы добра вядомых ісцін. Вазьміце, пачытайце апошнія па часе вершы нашых паэтаў, а пасля адгарніце іх папярэднія... Не многа страціце, калі не прачытаеце апошняе, чытаўшы папярэдняе... Канечне, скажуць, паэты не паспелі яшчэ перабудавацца, ды і часопісы, а, тым больш, выдавецтвы яшчэ не паспелі выдаць новае... Магчыма. З адным толькі нельга пагадзіцца: ці трэба перабудова сапраўднаму мастаку слова, творцу?

«Галоўнае — заставацца сумленным перад сабой, — гаварыў у адным з інтэрв'ю В. Астаф'еў,— працуючы над творам вычарпаць усе магчымасці, дасягнуць «потолка», чаго ў дадзены момант можаш дасягнуць. А пасля пажывеш, назапасіш ведаў, думак, матэрыялу — глядзіш, «потолок», і прыўзняўся». У многіх нашых паэтаў, на жаль, гэты «потолок» нізкаваты і за доўгія гады творчай дзейнасці рэдка калі падымаецца.

Аднойчы давялося мне наведаць майстэрню вядомага беларускага мастака Пятра Данэлія. Пад час размовы вырвалася ўтрапёна-хлапечае: атрымаць тут жа з яго рук сяброўскі шарж на памяць... Па сённяшні дзень добра помніцца задоўжанае маўчанне Данэлія і, пасля, яго словы: «Прабачце, не магу. Я вас яшчэ блага ведаю... А так, адразу — не магу. З кожным годам усё больш адчуваю адказнасць за любы свой мазок і выпадковы алоўкавы штрых...» Ну, што ўжо, здавалася б, той шарж накідаць для такога майстра, якая ўжо тут адказнасць? Пасля я зразумеў яго. Сапраўдны творца — у малым і вялікім — павінен быць на сваёй, ім адваяванай, ВЫШЫНІ.

Адчуваннем падобнай адказнасці ярка вызначаюцца ў нашай паэзіі творы Пімена Панчанкі, Аляксея Русецкага, Алеся Разанава, Уладзіміра Някляева, Генадзя Бураўкіна, Уладзіміра Паўлава, Міхася Стральцова, Дануты Бічэль-Загнетавай, Валянціны Коўтун.

Ёсць спадзяванні і надзеі на творчы пошук маладых. Ужо сёння прыхільнікі беларускай паэзіі вызначаюць своеасаблівыя галасы такіх паэтаў, як Алег Мінкін, Анатоль Сыс, Леанід Дранько-Майсюк, Галіна Булыка... Не ва ўсіх іх яшчэ ў поўнай меры выявілася творчая індывідуальнасць, але ўсе яны ў няспынным пошуку, усе яны стараюцца несці сваё слова да свайго чытача. А чытач ужо ў іх ёсць, хоць, праўда, пакуль што не такі шматлікі. Але, магчыма, творчымі высілкамі іх паэтычнага пакалення гэтае чытацкае кола стане з цягам часу шырэйшым. Я ў гэта веру.

Запала ў памяць тэлеперадача «Крыніца». Гледачы сустрэліся з членамі літаратурнага аб'яднання пры газеце «Чырвоная змена». Глядзіш, бывае, перадачу з удзелам нашых вядучых паэтаў і, пачуўшы пачатак яе, ужо добра ведаеш, чым яна скончыцца. Тут было ўсё наадварот. На мой погляд, такія перадачы (праўда, з больш прадуманым сцэнарыем і падборам удзельнікаў) павінны стаць перыядычнымі.

З цікавасцю прачытаў я і артыкул Кастуся Цвіркі «Каб крытыка была крытыкай...» Даўно наспелая гаворка. Да гэтых дзён не дадзена належная ацэнка такім адметным творам, як «Маўчанне травы» Васіля Зуёнка, «Родныя дзеці» Ніла Гілевіча, «Шлях-360» Алеся Разанава, «Наскрозь» Уладзіміра Някляева... Крытыкі нібыта баяцца падступіцца да гэтых значных твораў нашай сучаснай літаратуры. У той жа час на старонках газет і часопісаў разжоўваецца чытачам пасрэднае і другараднае...

Хацелася б коратка прыпыніцца і на лепшых паэтычных падборках, якія былі змешчаны на старонках літаратурных часопісаў у лістападзе і снежні мінулага года. Найбольш запамінальная, на мой погляд, нізка вершаў Міколы Маляўкі ў 11-ым нумары «Маладосці». Асабліва ўражваюць такія яго вершы, як «Хатуль», «Я твой баец, Радзіма», «Пясняр Уладзімір». Калі параўнаць гэтыя вершы з вершамі з яго папярэдніх кніг «Эстакада», «Дар», бачна, што паэт пераадолеў стэрэатыпы, знайшоў новыя словы для шчырай размовы з чытачом. Праўда, няўдалыя ў гэтай падборцы вершы пра каханне. Наогул, трэба прызнаць, што пра каханне апошнім часам пішуць мала і да таго ж штучна. Няма ў гэтых вершах адкрыцця, усё той жа блакіт неба, цнатлівыя вочы, вечнасць...

Вось прыклад такой версіфікацыі:

**Запомніў ласкавыя вочы,**
**Душы бясконцае святло...(?)**
**Адно імгненне светлай ночы**
**На ўсё жыццё ліе святло.**
**Гады зусім не меншаць болю,**
**Хоць бачу ў снах цябе радзей...**
**Цвітуць валошкі ў нашым полі**
**Блакітам дарагіх вачэй.**

Гэта з вершаў Льва Мароза, якія былі надрукаваны ў лістападаўскім нумары «Полымя». З усяго прачытанага на тэму кахання запомніўся, бадай, толькі верш Вольгі Іпатавай «Прыязджаў счарнелы, як скарынка...», які мае права называцца паэзіяй.

Яўген Хвалей — паэт, які чакае выдання ўжо трэцяга зборніка паэзіі, але асабліва не трапляў на вока крытыкам. І вось, прачытаўшы ў «Маладосці» (№ 11) трыпціх «Жацерава», нельга не парадавацца яго творчай удачы. Трыпціх гэты ўяўляецца мне міні-паэмай. Да вайны, вайна, пасля вайны... Лёс вёскі, лёс канкрэтнага чалавека, лёс усяго жывога і разумнага на зямлі:

**— Я думаю, жыту**
**калоссем шумець,**
**пакуль мы трымаем**
**штурвал**
**памяці,**
**веры,**
**надзеі,**
**любові...**

Усхвалявалі і прымусілі задумацца вершы з літаратурнай спадчыны Алы Кабаковіч. Усе мы добра ведалі яе як таленавітага крытыка. А тут раптам — вершы. Шчырыя, натураль-

# З АДЧУВАННЕМ ЧАСУ І РУХУ ЛІТАРАТУРЫ

**(Заканчэнне. Пачатак на стар. 5)**

пажадаеш ніводнаму добраму чалавеку...

Ужо зазначалася, што нямала новага, прытым цікавага і слушнага, здолеў сказаць С. Лаўшук пра камедыю «Хто смяецца апошнім». Але ёсць у разглядзе гэтага твора і такое, з чым пагадзіцца цяжка, а то і немагчыма. Так, даследчык сцвярджае, што выдатная крапівінская камедыя — «гэта дзейсна-пластычны здымак рэчаіснасці. Іншымі словамі, драматург нічога не выдумляў, не сачыняў фабулу, ён толькі памайстэрску, на высокім мастацкім узроўні асэнсаваў яе». Выходзіць, што пісьменнік знайшоў гатовую жыццёвую гісторыю і проста перанёс яе ў свой твор. Такое і аспрэчваць сур'ёзна не выпадае, бо нават у тых выпадках, калі ў аснову твора кладзецца нявыдуманая ў галоўных контурах падзейная канва, аўтару без мастацкай фантазіі, без творчага вымыслу не абысціся. У творах сатырычных гэта асабліва відавочна, бо там большая ці меншая дэфармацыя таго, што можна назваць «здымкам рэчаіснасці», непазбежная. Іначай дасканалага сатырычнага твора ніяк не атрымаецца.

Дарэмна таксама разважае даследчык пра «пэўную амбівалентнасць аўтарскага погляду» на Гарлахвацкага. Слоўца гэтае («амбівалентнасць») сёння моднае, нават ужо і зацяганае. Ды вельмі ж яно не падыходзіць для характарыстыкі пісьменніцкай пазіцыі ў дачыненні да галоўнага сатырычнага персанажа камедыі. Яе ж, гэтую пазіцыю, даследчык, пагнаўшыся за модным тэрмінам, вызначае так: «Гнеўнае асуджэнне і імкненне зразумець, непрыкметная іронія, насмешка і нават пэўнае любаванне...»

Дзіўная мешаніна! Бо і пра непрыкметную іронію не даводзіцца гаварыць там, дзе ёсць з'едлівая насмешка, і гнеўнае выкрыццё ніяк не стасуецца з любаваннем, няхай сабе і толькі пэўным. Ды не забудземся ж яшчэ, што маецца на ўвазе любаванне вялікім нягоднікам, «свінтусам грандыёзусам», як ён з'едліва называецца ў творы, а ў дадатак да ўсяго і ворагам Савецкай улады. Гавbooрыць пра нейкае аўтарскае любаванне такім небяспечным, злавесным тыпам сёння можна, хіба што цалкам абстрагаваўшыся ад усёй атмасферы таго часу, які адлюстраваны ў крапівінскай камедыі. Тым жа, хто некалі і ў рэальным жыцці меў шанцы сутыкнуцца з гэткімі «свінтусамі грандыёзусамі» ва ўсёй іх злавеснасці, было не да любавання ні іхнімі акцёрскімі здольнасцямі, ні іхняй неардынарнасцю ў іншых адносінах, скіраванай на шальмаванне сумленных людзей. Што ж датычыць Кандрата Крапівы, дык у яго такія шанцы былі, і не раз.

Здзіўляе і тое, што аўтар услед за некаторымі ранейшымі даследчыкамі сур'ёзна разважае адносна таго, ці быў Гарлахвацкі свядомым ворагам Савецкай улады, яе ідэйным праціўнікам. «Такія людзі, — піша крытык, — звычайна не дружаць ні з якой уладай, бо ўлада — гэта перш за ўсё Крымінальны кодэкс, звод няпісаных і пісаных маральных законаў. Нічога гэтага добраахвотна на свае плечы ўскладваць ён не збіраўся, прызнаючы толькі адну ўладу — уладу ўласнай эгаістычнай амбіцыі». Але пра свядомае шкодніцтва Гарлахвацкага адназначна і неаднойчы гаворыцца ў творы. Напрыклад, Левановіч, фактычна выносячы прысуд гэтаму ворагу народа, як тады казалі, кідае ў твар Гарлахвацкаму: «Я ведаю, як вы спрабавалі разлажыць на Украіне адзін наркамат. Вам гэта не ўдалося. І тады вашы прыяцелі перакінулі вас сюды з фальшывым пасведчаннем. Тут, праводзячы сваю подлую работу, вы ашальмавалі прафесара Чарнавуса, тэрарызавалі таварыша Тулягу... «Тут жа, у геалагічным інстытуце, Гарлахвацкі, якога сюды, нібы ў манастыр, саслалі высокія заступнікі, ратуючы ад пагрозы выкрыцця, ён «з'еў ужо Мураўіцкага» і ўвогуле збіраецца так зблытаць «карты, што свой свайго не пазнае». І ўсё гэта патрэбна Гарлахвацкаму не толькі дзеля «ўласнай эгаістычнай амбіцыі», але і для таго, каб даказаць тым сваім заступнікам, сябрам па варожых справах, што ён яшчэ здольны і ў далейшым шкодзіць новаму грамадству, Савецкай уладзе, як шкодзіў там, у Кіеве, яўна парушаючы Крымінальны кодэкс. Іначай і ў Мінск уцякаць не трэба было. А Гарлахвацкі ж не проста ўцякаў. Ягоныя хаўруснікі па шкодніцтву ясна сказалі: «Сядзі ціха, а калі спатрэбіцца — пазавём».

Ды без выразных намёкаў на свядомае шкодніцтва Гарлахвацкага, на тое, што ён замаскіраваны вораг народа, у 30-я гады камедыя не магла пабачыць свет. Праўда, усе матывы, звязаныя са шкодніцкай дзейнасцю Гарлахвацкага, паступова трацілі сваю актуальнасць. І сёння яны ўжо не «гучаць». Але гэтым ніяк не «здымаецца» іх важнасць для свайго часу, у прыватнасці для разумення лёсу крапівінскага твора.

У кнізе С. Лаўшука ёсць нямала палемікі з тымі аўтарамі, якія пісалі пра беларускую драматургію да яго. Палеміка гэтая сама па сабе абсалютна законная, нярэдка слушная. Яна ажыўляе кнігу, робіць яе больш цікавай і ўвогуле вядзецца дастаткова карэктна, хаця і не без пэўных выдаткаў. Я маю на ўвазе перш за ўсё некаторыя «прыпіскі», не сказаць каб асабліва страшныя, але ўсё ж прыкрыя.

Так, з успамінаў Л. Рахленкі вядома, што афіцыйны прадстаўнік Камітэта па справах мастацтва выступаў супраць пастаноўкі камедыі «Хто смяецца апошнім» на купалаўскай сцэне. Пра гэты факт са спасылкай на Рахленку пісаў спачатку Я. Казека, а потым і я, грэшны. Таго прадстаўніка ні Казека, ні я ў вочы не бачылі і, натуральна, пра яго асобу нічога не гаварылі і гаварыць не маглі. Зразумела, і Лаўшук ніякіх цытат такога плана прывесці не можа, бо іх няма. Але вельмі ж яму хочацца паразважаць пра таго прадстаўніка. І ён прыпісвае нам тое, чаго мы не пісалі, — думку пра палахлівасць, някемлівасць і неразумнасць таго камітэтчыка, яго няўменне разбірацца ў мастацтве і інш. Маўляў, гэта вынікае з кантэксту, у якім прыводзяцца сведчанні Рахленкі.

Сёе-тое лішняе прыпісаў мне С. Лаўшук і ў спрэчцы пра Тулягу. «Д. Бугаёў ...схільны бачыць у асобе Тулягі ледзь не самага мужнага чалавека ў камедыі», — зазначае даследчык. Можа, з гэтым Тулягам мне і сапраўды не ўдалося толкам разабрацца, але пра яго асаблівую мужнасць я ўсё ж не пісаў, а найбольш звяртаў увагу на тое, што яму ёсць чаго баяцца пагроз Гарлахвацкага. Лаўшук жа разважае ў сувязі з гэтымі пагрозамі пра «несусветную лухту», ад якой маўляў, «смех дый годзе». Але лухтой гэта выглядае сёння. А ў тых умовах, што ўзнаўляюцца ў камедыі, і не такая яшчэ лухта магла быць падставай для таго, каб «загрымеў» невінаваты чалавек.

Думаю, што памыляецца даследчык і там, дзе піша пра Тулягу як пра паталагічнага баязліўца. Хай выбачае чытач, але паўтару тое, што сказалася на гэты конт у кнізе «Талент і праца»: «Вядома, цалкам адмаўляць баязлівасць у Тулягі было б рызыкоўна. Але яна, гэтая баязлівасць, зразумелая і тлумачыцца не столькі і ўжо, ва ўсякім разе, не толькі прыроднымі якасцямі яго натуры, псіхалагічнымі асаблівасцямі характару, а найбольш і галоўным чынам складанымі жыццёвымі абставінамі, у якіх гэты чалавек невялікай храбрасці знаходзіцца».

Зрэшты, і С. Лаўшук прызнае, што падставы для той трактоўкі Тулягі, якую я спрабаваў аргументаваць, «змест п'есы дае». Але тут жа ідзе агаворка: «Гэта, калі лічыць па аб'ектыўна-выніковай сутнасці ўчынкаў» персанажа. Потым зазначаецца, што так лічыць будзе чамусьці недакладна, бо, бачыце, трэба яшчэ прымаць пад увагу адзнакі «эмацыянальнага, «этыкетнага» плана». З гэтым «этыкетным» планам выходзіць трошкі мудрагеліста. Аднак жа ніякае мудрагельства не можа перакрэсліць той бясспрэчны і даўно ўстаноўлены факт, што якраз ва ўчынках чалавека найбольш і выяўляецца яго сапраўдная аб'ектыўная сутнасць.

А яшчэ С. Лаўшук піша, што Туляга «аднолькавы з Гарлахвацкім, якога баіцца, як чорт ладану, з Верай, Левановічам і Чарнавусам, якіх паважае і ад якіх чакае падтрымкі». Гэта проста не адпавядае тэксту твора, бо Туляга ўрэшце шчыра давяраецца Левановічу, не хітруе з Верай і Чарнавусам, а з Гарлахвацкім, адчуўшы, што гэта за невук і прайдзісвет, вядзе дастаткова тонка разлічаную і таму ў канчатковым выніку, пераможную вайну.

Ёсць недакладнасць і ў наступнай фразе ўсё пра таго ж Тулягу: «Тонкасць гэтага вобраза ў тым, што яго трэба ўспрымаць такім, якім ён выглядае». Гарлахвацкі, на сваю бяду, так і ўспрыняў. І пагарэў. Самым, можна сказаць, капітальным чынам. Тонкасць Тулягі як мастацкага вобраза якраз у яго неадназначнасці, у тым, што Туляга толькі з выгляду прасценькі...

І не вельмі ўжо ён пакорлівы, гэты Туляга, бо сумленны, мае пачуццё ўласнай годнасці, не «хваравіта абвостранае», як піша С. Лаўшук, але дастаткова пэўнае, моцнае. Даследчык жа разважае і пра Тулягаву пакорлівасць: «Менавіта дзякуючы пакорлівым Тулягам раскашуюцца захрыбетнікі Гарлахвацкія. Якраз не Зёлкіны забяспечваюць існаванне «свінтусам грандыёзусам», а Тулягі». Думаю, што беднаму Тулягу і тут перападае залішне, куды больш, ва ўсякім разе, чым вынікае з крапівінскага твора. Бо ў п'есе Крапівы якраз Туляга смяецца апошнім. Гэта яго чалавечая сумленнасць урэшце перамагае, дапамагаючы зламаць магутны хрыбет Гарлахвацкага.

У рэальным жыцці магчымы і іншы паварот, у камедыі не рэалізаваны. Мы ўсе часам бываем Тулягамі. І прайдзісветы гэтым карыстацца сапраўды ўмеюць. Але ўсё ж галоўнае зло не ў Тулягах, якія і ў такіх выпадках толькі ахвяры. Галоўнае зло заўсёды ў Гарлахвацкіх. Каты — яны. І не трэба ўроўніваць катаў і іх ахвяр, празмерна многа спісваючы на Тулягаў. Паўтару, што камедыя Крапівы напісана не пра тое, якое вялікае зло можа

## З ПАЭТЫЧНАГА СШЫТКА

**Васіль САХАРЧУК**



# КРОПКА НА КАРЦЕ

**ПАЭМА НЕПЕРСПЕКТЫЎНАЙ ВЁСКІ**
(Фрагменты)

Сярод бяроз на беразе ракі
прысела ля вады старая хата.
Яе святлю ні ў будзень, ні на свята
ніколі не мінаюць рыбакі.
Іх вабіць ветлы водсвет у акне,
ды дзіўнавата мне, што ў век касмічны
міргае на стале звычайная газніца,
вісіць стары транзістар на сцяне.
Замшэлы зруб на трэць у дол урос.
Прастуджана рыпяць настылыя масніцы.
А дзед Раман заве яе святліцай,
хоць хату ўжо даўно пара на знос.
— Сваё мы, — уздыхае, — пражылі.
Сяджу на водшыбе, нібыта
грыб-слязніца.
Вядома, мог бы я ў сяло перасяліцца,
ды, бачыш сам, ужо няма калі.
Мяне цяпер лягчэй перасяліць
на тое вечнае паселішча людское,
куды мне трапіць, што махнуць рукою,
аднак жа і туды няма калі.
Вось працягну дзесятка паўтара,
*паклічу сам: давай прыходзь, старая,*
за чаркай пасядзім альбо за чаем
і вырашым — пара ці не пара?..

●

Я тут праездам.
З леташняй вясны
ў святліцы не сядзеў з гасцінным
дзедам.
Завейная зіма свіціцца новым следам —
падсыпала Раману сівізны.
Сядзіць Раман галодны, як рака,
паблісквае азёрнымі вачыма,
распытвае пра ўсё, і немагчыма
у ім прызнаць старога рыбака.
— Такі заехаў... А худы — бы ліст.
Халасцякуеш, хоць гады не тыя.
Прагпядваюцца звычкі гарадскія.
І да ўсяго — сур'ёзны журналіст.
Чытаў... Хвалю!
І мовы не забыў.
Галубіць сэрца выгавар палескі.
Без роднай мовы людзі, быццам
трэскі,
у рыбы й то — свая, хоць не любы
умее разумець нямую рыбу...
Ды рыба што? На ёй я зубы з'еў.
Адно трывожыць:
каб наш род не схібіў,
каб белы свет аднойчы не знямеў.
Сыны мае таксама ў стольным градзе.
Праспектам Праўды вулку іх завуць.
Бывае зваляцца, бы снег на галаву,
і пасвятлее, як у майскім садзе.
Унукаў мне пакінулі: Пятра
і Лесіка.
Маўляў, для выхавання.
Забылі мову горада дазвання,
і я лічу, што гэта — да дабра.
Абодва ў дзеда —
хлебам не кармі,
Хоць і падшпаркі, а зранку — за вуды.
І я за імі,
думаю, што будуць
мае падлёткі добрымі людзьмі.
Трымае ўсіх падлёткамі зямля,
а падрастуць ды набяруцца сілы,
нібы буслы, становяцца на крылы,
чакай іх, быццам з выраю, здаля.
Мо час такі...
Паразумнелі дзеці.
Крылатых колькі дома ні трымай,
усё адно ўсхвалюе крылы вецер,
*хоць сам за імі крылы распраўляй.*
Крылатых не віню.
Ды, бачыш, і бяскрылых
у вёсцы аніяк не затрымаць.
Не хочуць на зямлі выцягваць жылы,
таму і з вёскі ў цягніках ляцяць.
Па-рознаму глядзяць на гэта людзі,
ды ім усё да рэшты аддаюць.

## СТАРОНКІ ЎСПАМІНАЎ

# «Бацька расказваў...»

Валянціна Куляшова

З «КНІГІ ПРА БАЦЬКУ»

З ЛЮТАГА 1984 года сярод матэрыялаў, прысвечаных сямідзесяцігоддзю з дня нараджэння народнага паэта БССР Аркадзя Куляшова, у газеце «Літаратура і мастацтва» павінен быў быць надрукаваны і мой артыкул. Гэтыя некалькі старонак я занесла ў рэдакцыю без загалоўка, і першае, што кінулася ў вочы, калі ў дзень юбілею разгарнула газету, была набраная блакітнай фарбай назва «Бацька расказваў...».

Я не адразу зразумела, у чым недакладнасць такога погляду на маю працу, ды з пункту гледжання і рэдакцыі, і чытача яе, мабыць, і не было, калі нават мая маці, прачытаўшы артыкул, пракаменціравала яго наступным чынам:

— І як толькі ты ўсё гэта запомніла?!

«Запомніла», «расказваў» — цэлы дзень круцілася ў галаве, пакуль не афармілася ў горкую думку: «Каб жа расказваў!»

І адразу ж, невядома адкуль узятая, усплыла ў памяці ідылічная карцінка: сядзіць у коле сям'і гэткі сівы патрыярх і дзеліцца сваім вопытам з маладзейшымі — дзецьмі, унукамі... Як гэта цудоўна! Але і як непадобна да жыцця нашай сям'і, дзе нават агульныя застоллі з іх шчырымі размовамі, у якіх прымаюць удзел усе, незалежна ад узросту, здараліся часам толькі на Нарачы, у канцы жыцця бацькі.

Прычына была, відаць, не толькі і не столькі ў тым, што бракавала сямейных традыцый (мая маці засталася круглай сіратой у двухгадовым узросце, а бацька з'ехаў з дому чатырнаццацігадовым), колькі ў суровым жыцці бацькоў з іх ранні́м горкім вопытам.

Мала расказваў бацька. Затое як многа значыла ў нашым жыцці сама яго прысутнасць, адбіццё падзей у свядомасці і жэсце, слове ці ўчынку бацькі...

5 сакавіка 1953 года на досвітку мяне абудзіў голас Левітана, які з вайны асацыіраваўся з бядой. Голас даносіўся з рэпрадуктараў з праспекта Леніна (тады праспекта Сталіна, дзе ў доме нумар 12 жыла наша сям'я). Радыё прынесла сумную вестку: памёр Іосіф Вісарыёнавіч Сталін.

Пачуўшы жахлівую навіну, я кідаюся да кабінета бацькі — невялічкага пакоя ў глыбіні кватэры, каб паведаміць пра няшчасце. Расчыніўшы з разбегу дзверы, са здзіўленнем бачу, што бацькі ўжо не спяць, а сядзяць, апранутыя, пры свеце настольнай лямпы на канапе, дзе звычайна спіць бацька. Зялёнае святло нагадвае мне трывожнае сіняе святло вакзалаў ваеннай пары і развітанні перад доўгай разлукай.

— Сталін памёр! — выкрыкваю я, гатовая зайсціся ў плачы, і чую ў адказ кароткае, як стрэл:

— Не смей плакаць!

У архіве бацькі я знайшла папку з фотаздымкамі, якая ляжала асобна. Там было некалькі здымкаў, разглядаючы якія, я зразумела, што тут захоўваюцца партрэты дарагіх сэрцу бацькі жанчын. Сярод фота Алесі Карыткінай, Лілі Драздовай, Леакадзіі Масленнікавай, Ізольды Ізвіцкай, мамінага і майго я раптам са здзіўленнем знайшла партрэт Іосіфа Вісарыёнавіча.

Памятаю, што гэты партрэт правадыра з люлькай быў у ліку тых падарункаў, якія даваліся дэлегатам аднаго са з'ездаў партыі.

І мне ўспомнілася:

**Стелются черные тучи,**
**Молнии в небе снуют.**
**В облаке пыли летучей**
**Трубы тревогу поют.**
**С бандой фашистов сразиться**
**Сталин отважных зовёт.**
**Смелого пуля боится,**
**Смелого штык не берет.**

Песня — першая з тых, якім мяне вучылі ў школе. Гэта было ва Уральску, дзе ў 1943 годзе я пайшла ў першы клас. Мая першая настаўніца, інтэлігентная жанчына ў гадах, у мінулым навуковы супрацоўнік Акадэміі навук Украінскай ССР, Клаўдзія Паўлаўна (прозвішча яе я, на жаль, не памятаю), размножыла для нас, вучняў, тэкст песні на лістках газетнай паперы, якія служылі нам тады і сшыткамі. Школа з гэтай яе добрай чараўніцай, якая не толькі штодня расказвала што-небудзь новае і цікавае, але і клапацілася пра нас, як маці, была тады для нас, вучняў, сховішчам ад усіх тых нягод, якія спадарожнічаюць жыццю на рубяжы выжывання. Кідаючы мысленна погляд на той адрэзак свайго жыцця, я разумею, што ні ад чаго ў ім не хачу адцурацца. Існуе, відаць, сувязь паміж абставінамі жыцця і душой чалавека.

Прыпомнілася і тое, як раззлавана цыкнуў мой бацька на маю маці і яе сяброўку Аню Барысенка, калі яны ў дні жалобы па І. В. Сталіне пачалі ўголас абмяркоўваць нейкія гаспадарчыя справы. Успамінала і пра тое, што ў бібліятэцы бацькі па сённяшні дзень стаіць Збор твораў Сталіна.

І, нарэшце, верш «Бацька», якім пачыналіся ўсе пасляваенныя зборнікі лірыкі Куляшова. Прывяду яго тут, а вы, я думаю, пагодзіцеся са мной у тым, што ў ім няма фальшу:

**Калі вайна мой мірны край агорне**
**Ці ў месяц май, ці ў месяц лістапад,**
**Я забягу, апрануты па форме,**
**Да роднае дачкі ў дзіцячы сад.**
**З-пад яблыні крыніца мкне жывая.**
**Я й сам пайду — у гэты дзень — туды.**
**Тваім вядром, дачка мая малая,**
**Я зачарпну сцюдзёнае вады.**
**Закружыцца —**
**у раніцу разлукі —**
**Маім штыком з галінкі збіты ліст.**
**Вазьму цябе, маленькую, на рукі,**
**І ты заснеш, птушыны ўчуўшы свіст.**
**Пад яблыняю спаць цябе пакіну,**
**Пайду на Захад, смагу сцёршы з губ,**
**Каб не данёс ён ад свайго парога**
**А конь чужы травы яе не скуб.**
**Каб не данёс ён да свайго парога**
**Лент кулямётных жоўтыя клыкі**
**Да нашых сёл, да веку залатога,**
**І ранішняга сну маёй дачкі.**
**Мы з боем пройдзем княжацкія пожні,**
**На піках несучы канец вайне.**
**Там, на зямлі чужой, свой дзень**
**апошні,**
**Магчыма, давядзецца ўбачыць мне.**
**І на радзіму з водгуллем па рэках**
**Наказ мой прыйдзе, што даю цяпер:**
**Дачка мая,**
**ты ўбачыш чалавека,**
**Любі яго, як я люблю цябе.**
**Ён — бацька мой, сям'і ў яго багата,**
**Яго красой красуецца зямля,**
**Ён кожны год, калі бывае свята,**
**Ідзе на Плошчу Красную**
**з Крамля.**
**Зірні на рысы твару дарагога,**
**Як я, ты зразумееш**
**зноў і зноў,**
**Што гэта бацька родны, у якога**
**Шмат на вяку загінула сыноў.**
**Яму за сына кожнага**
**асобна**
**балела сэрца у часы нягод;**
**Прыжмурыць вочы, і маршчынкі**
**дробна**
**Акрэсляцца,**
**Як сведкі мужных год.**
**Ён — бацька мой.**
**Мне паміраць не страшна,**
**Да кроплі ўсё жыццё яму аддам,**
**Бо не дарэмна кроў пральецца наша,**
**І ўнукі ўнукаў**
**Дзякуй скажуць нам.**

Думаючы пра ўсё гэта, я зразумела, што яго «не смей плакаць!» датычыла не столькі яго жыцця і лёсу, колькі маіх. Гэта ж у яго лёсе былі і трыумфальны рух краіны па шляхах пяцігодак, і перамога ў Вялікай Айчыннай. Мне ж і ўсім, хто пойдзе ўслед, ён проста не хацеў тых горкіх выпрабаванняў, якія прыйшліся на долю яго пакалення.

А з уласнага лёсу ён не выкрэсліваў, мне здаецца, нічога.

5 сакавіка 1953 года мне было 17, бацьку — 39. Мой жыццёвы вопыт — вынік грамадскага выхавання — зводзіўся да наступнага:

**Сталин — наша слава боевая,**
**Сталин — нашей юности полёт...**

Ці зусім ужо роднага, купалаўскага:

**Аб Сталіне сейбіту песня мая...**

І раптам такое: «Не смей плакаць!». Станоўча, цвёрда. Я зразумела: тлумачэнняў не будзе. Не можа быць. Тлумачэнні прынёс час, 1956 год, XX з'езд партыі. Тады на адным з пасяджэнняў Саюза пісьменнікаў БССР Куляшоў сказаў: «Мы былі шчырымі ў тым, што пісалі, бо наша свядомасць была абумоўлена грамадскай псіхалогіяй нашага часу».

Тады ж, пасля XX з'езда партыі, адкрылася і таямніца знікнення майго дзядзькі Платона, славутага беларуса, выдатнага празаіка Платона Галавача.

З гэтым імем у жыцці маіх бацькоў, як, зрэшты, і многіх з тых, каго жыццё звяло з ім, звязана многае і, мабыць, самае лепшае. Для маёй маці, у дзяцінстве Ксені Фёдараўны Вечар, ён зрабіўся другім бацькам пасля таго, як трынаццацігадовай дзяўчынкай яна пераехала з вёскі ў Мінск, у сям'ю Платона Раманавіча, за якім была замужам яе старэйшая сястра Ніна. Сям'я Галавача дзякуючы таварыскасці гаспадара жыла надзвычай адкрыта. Да іх ішлі ўсе, каму патрэбна была сяброўская парада, дапамога ці проста спачуванне.

Вясковы хлопчык, сірата, Галавач на хвалі рэвалюцыйнай перабудовы грамадства здолеў узняцца да вышынь сусветнай культуры, а ў літаратурным жыцці рэспублікі стаў адным з найбольш аўтарытэтных людзей свайго часу. Ён мог даць кваліфікаваную ацэнку новага твора, і да яго думкі прыслухоўваліся, тым больш, што эрудыцыя, літаратурны густ і прынцыповасць камуніста, які да таго ж займаў кіруючыя пасады ў Саюзе пісьменнікаў і ўрадзе рэспублікі, спалучаліся ў ім з надзвычайнай сумленнасцю, добразычлівасцю і чуласцю. Галавач мог, напрыклад, сярод ночы пайсці ў другі канец горада шукаць пачаткоўца, даведаўшыся ўвечары, што таго днём незаслужана пакрыўдзілі, як расказвае аб гэтым у сваіх успамінах Мікола Хведаровіч.

Як мастака Галавача вылучала сярод празаікаў яго пакалення абвостранае пачуццё сучаснасці. Магчыма, таму, што ён не быў «кабінетным» пісьменнікам. Свае творы — апавяданні, аповесці, раманы — Галавач пісаў па гарачых слядах падзей, у якіх Платон Раманавіч прымаў удзел як камсамолец і камуніст. У гэтым сэнсе яго творы — біяграфія пакалення першых савецкіх камсамольцаў.

Аповесць «Спалох на загонах» — лепшы твор беларускай літаратуры, прысвечаны калектывізацыі. Цікава, што і сёння ён можа служыць узорам глыбокага мастацкага асэнсавання рэчаіснасці. Раман «Праз гады» — першы твор беларускай прозы, прысвечаны гарадской інтэлігенцыі. Тэму кар'ерызму, як вялікай небяспекі для грамадства, якое знаходзіцца ў стане фарміравання, Галавач закрануў ужо ў гэтым рамане і зрабіў галоўнай у сваім апошнім творы — рамане «Ён», якога чытач не ўбачыў. Але пра гэта — пазней...

А зараз мне хацелася б нагадаць, што менавіта тут, у доме Платона Галавача, ад яго самога мая маці ўпершыню пачула пра таленавітага маладога паэта Аркадзя Куляшова. У Галавачоў яна неўзабаве і пазнаёмілася з дзёрзкім маладым чалавекам, чый імпэт ёй прыйшлося астудзіць, выліў-

Не заўважаюць:
дзецям сэрцы студзяць,
адно другому прыклад падаюць...

●

Цік-так, цік-так — адлічвае хвіліны
пашарпаны гадзіннік на акне...
І думаецца мне:
яшчэ адной хаціны
не стане хутка ў гэтай старане.
А час між тым нібыта рух паскорыў...
Па цёмным твары, быццам па зямлі,
вакол вачэй кругамі пралеглі
маршчыны, бы глыбокія разоры.
Гады ляцяць няўмольна, незваротна,
нібы паўстанкі міма цягніка...
Задумаўся Раман.
Мая рука
фіранку адхінае незнарока.
На ўзгорку — жменька хат.
Здалёк відно
пустое хатнішча Нямой Анэлі,
а побач — дошкамі забітае акно
Змітра Рабога.
Галубы ўзляцелі
з пакінутага Тэкляй камінка.
Вядзе каня жанчына да падводы...
І там — на вокнах крыж...
Змялелая рака
па новым рэчышчы нясе цярпліва воды.
Шалёўкай новай сцены Тамаша,
бы сонца, ззяюць.
Кажуць: чорт лазаты.
Суседу не пазычыць і граша,
а сам гатоў рублямі клеіць хату.
А вось і ён:
шыбуе з хатулём,
напоўненым жарынкамі шыпшыны.
Слыве на ўсю акругу знахаром
і ў лазню ездзіць толькі на машыне.
Ды балазе да лекара свайго
аднавяскоўцы з болькай — ні нагою.
З-за свету ж едуць людзі за яго —
чарга, бы да прафесара, парою.
Залетась быў, нябога, занямаў,
але не стаў замовамі лячыцца.
Пасля ўздыхаў:
«Ані за што б прапаў,
каб не завёз сусед мяне ў бальніцу».
За хатай Тамаша заломаным крылом
дзіравы ветрачок схіліўся долу.
На ўскрайку, пад вярбой — цагляны
дом —
былы будынак пачатковай школы.
А леваруч калгасны цэнтр відзён,
асабнякі найноўшага праекту...
Дзед не схлусіў ані:
з яго акон,
бы на далоні, бачыцца паўсвету.
— Ты па заданні, значыцца, да нас.
Пра перамены зноў пісаць наважыў.
Што ж, дзякую табе —
людзей уважыў,
адно не загінай пра наш калгас.
Па цэнтры пахадзі, пабудзь у старшыні.
Ды што табе казаць,
калі ёсць вушы й вочы.
І пастарайся ўправіцца да ночы.
Вяртайся, раз прыехаў на два дні,
...У лістападзе зноў мне выпала
быць тут.
У Сваткі завітаў, бы ў родны кут.
Сяло будзённым клопатам жыло.
Свяцілася здалёк Раманава жытло.
Па вузкай сцежцы я да дзеда бег.
Над галавой кружыўся лёгкі снег.
Ледзь дзверы прачыніў:
пад лямпачкай мой дзед
сядзіць за стосам леташніх газет.
— Вітаю са святам! — адклаў
газеты ўбок.
— І я цябе, залётны галубок!
Нібыта ўчора развітаўся з ім.
Зварылі юшку. За сталом сядзім...
— Ты недарма хадзіў да старшыні.
Далі святло мне, братка, праз тры дні.
Казалі шчэ: калі захочаш, дзед,
дык напішы заяву ў сельсавет.
Кватэру ў цэнтры ў адзін міг дамо,
а то сядзіш ля рэчкі, як бяльмо.
На Месяц людзі лётаюць,
а ты...
вісіш на шыі, бы хатуль пусты.
Тлумачылі мне сутнасць перамен,
нібыта я дурны, як той бязмен...
Дзесь вычытаў, бы ісціну знайшоў:
сон розуму выплоджвае аспоў,
пачвар...
Ім заранёў няма
Ні прозвішча,
ні назвы,
ні імя.
Імя запозна ім даюць, відаць..
А душы спяць...
Злачынна душы спяць!

шы на яго трошкі кіпеню з чайніка, у якім яна падавала чай гасцям.

У 1934 годзе Ксеня Вечар і Аркадзь Куляшоў пасяліліся разам і жылі недалёка ад сям'і Галавачоў на вуліцы Маскоўскай.

**Я жыву на вуліцы Маскоўскай...**
**Пад вясновым громам**
**І дажджом,**
**Адлюстраваны ў панелі коўзкай,**
**Там стаіць шматпавярховы дом.**
**Пакланіўшыся вясне і маю,**
**Кліч зязюлі ўчуўшы з-за ракі,**
**Кожны год**
**У вёску ад'язджаю**
**Падышаць, чым дышуць землякі,**

**Нехта з іх, за гутаркай сяброўскай,**
**У мяне спытае: «Дзе жывеш?..»**
**Адкажу:**
**«На вуліцы Маскоўскай...»**
**(На той самай, пра якую верш).**
**І, пачуўшы вуліцу такую,**
**Ён ласкава гладзіць вус сівы**
**І ўяўляе, мусіць,**
**Што жыву я**
**Недзе недалёка ад Масквы.**

Шчаслівая пара! Маладыя, прыгожыя, нічым не абцяжараныя, яны жылі, як бедныя студэнты, спадзяваннямі на будучыню і цешыліся новым, невядомым для іх шчасцем — быць уладальнікамі ўласнага кутка. Чым гэта павінна было быць для іх сірочых душ, — можна сабе ўявіць!

У кватэры на Маскоўскай ім належалі два з трох пакояў. Суседкай была нейкая Базарэўская, якую чамусьці ўсе за вочы называлі вар'яткай. Мне ж гэта «вар'ятка» падабалася таму, што дазваляла скакаць на спружынным матрацы свайго ложка (матрац і ложак уяўляліся мне тады атрыбутамі вялікага дастатку: у маіх бацькоў была толькі старая канапа), але ўсё гэта было пасля, калі мне ўжо споўнілася гады два-тры. А пакуль што...

У студзені 1936 года ў сям'і Аркадзя Куляшова нарадзілася дачка. У дужках трэба адзначыць, што гэта была я. А саму гісторыю я ведаю ад бацькоў.

Прайшоў люты, ішоў сакавік. У госці да маладых зазірнулі сваякі — Ніна Фёдараўна і Платон Раманавіч Галавачы. Між іншым, пацікавіліся, як завуць дачку. Высветлілася, што яна яшчэ без імені, бо маці хоча назваць яе Ганнай у гонар любімай гераіні рамана Рамэна Ралана «Зачараваная душа». Але бацька не дае згоды: дачка ж тады будзе Ганнай Аркадзьеўнай, што, як вядома з той самай літаратуры, нічога добрага не абяцае.

— Гэтыя мне літаратары! — напаўжартам-напаўсур'ёз абураецца Галавач. — Усё яны чыталі, усё ведаюць, а дзіця ўжо трэці месяц не мае імені. Гэтак вы, чаго добрага, запамятаеце, калі яна нарадзілася! Будзе Валянцінай! — рашуча заяўляе ён і дадае летуценна: — Я сёння прачытаў у Багрыцкага цудоўны верш:

**Валя, Валентина, что с тобой теперь?**
**Белая палата, крашеная дверь...**

— Дык гэта ж «Смерць піянеркі»! — з жахам выкрыквае Ксана.

— Што кіем, што палкай! — падсумоўвае Аркадзь, і дачка становіцца Валянцінай.

Аднак замест 27 студзеня бацька запісвае ў дакументах, што яна нарадзілася 28-га, бо, калі ён урэшце выбіраецца ў ЗАГС за пасведчаннем аб нараджэнні, дык заблытваецца ва ўжо больш жывых для яго асацыяцыях паміж датамі дуэлі і смерці А. С. Пушкіна (у гэты час ён працуе над перакладам «Цыганаў») і, не інакш як у імкненні канчаткова адмежавацца ад гэтай чорнай справы, выбірае адзіную нейтральную ў гэтым шэрагу лічбаў дату — 28-га.

Калі ж гаворка заходзіць пра Галавача, я заўсёды бачу адно і тое: да мяне, вельмі, відаць, маленькай, нахіляецца чалавек, твар якога, калі ён схіляе голаў, зацяняецца густой ільняной чупрынай. Мне так падабаюцца гэтыя мяккія валасы, што, працягваючы руку за падарункам, я спярша дакранаюся да валасоў.

Падарунак — чырвоная суконка — таксама «засеў» у маёй памяці, бо на кішэні была аплікацыя — сіні аксамітавы зайчык.

Ад маці я ведаю, што то быў апошні візіт Галавача да бацькоў. Ён прыехаў з Масквы ў сярэдзіне ліпеня 1937 года, а на пачатку жніўня сям'я Куляшовых паехала адпачываць у Дом творчасці пісьменнікаў «Пухавічы», куды ўслед за імі Кузьма Чорны прывёз жахлівую вестку: у ноч з пятага на шостага Платон Галавач быў арыштаваны.

Для маіх бацькоў скончылася пара бесклапотнага юнацтва. У тое, што Галавач можа быць у чымсьці вінаваты перад Радзімай, яны не верылі, бо надта добра ведалі гэтага крыштальнай чысціні і прынцыповасці чалавека і камуніста, і таму разумелі, што сталі ўдзельнікамі нейкай вялікай сацыяльнай драмы, якая, да таго ж, можа не абысці і іх саміх.

Такая пагроза сапраўды існавала. Пачалося з таго, што бацьку паклікалі ў Саюз пісьменнікаў і прапанавалі развесціся з жонкай, «сваячкай ворага народа». Увесь 1937 год Куляшова адмаўляліся друкаваць, і сям'я перабівалася з хлеба на ваду. Ці не таму мой брат Валодзя нарадзіўся на пачатку 1938-га неданошаным?

Развязка надышла летам 1938-га. У вёсцы, каля хаты, дзе адпачывала летам наша сям'я, аднойчы з'явіліся нейкія чужыя людзі. Яны змяняліся, але не знікалі. Так паўтаралася на працягу трох дзён.

Першым звярнуў на гэта ўвагу бацька і, падумаўшы, сказаў:

— Давай развітвацца, Ксаня...

Назаўтра, калі яны выйшлі за парог, гатовыя да разлукі, нікога ля хаты не знайшлі. Незнаёмыя тая больш і не з'яўляліся.

Пасля вайны Панцеляймон Кандратавіч Панамарэнка, які заўсёды добра ставіўся да майго бацькі, як да сапраўднага «паэта-франтавіка» (яго выраз), расказаў яму, што ў 1938 годзе з ведамства Яжова да яго на подпіс прынеслі паперу — ордэр на арышт. Спіс адкрываўся імёнамі Купалы і Коласа, а апошнім у ім, трынаццатым, быў Аркадзь Куляшоў. Нехта з «добразычліўцаў» беларускай паэзіі разгледзеў, відаць, што нядаўні хлапчук выйшаў ужо з дзіцячага ўзросту ў жыцці і літаратуры.

Што да Панамарэнкі, дык ён тады адмовіўся падпісаць ордэр, паехаў з ім на ўласны страх у Маскву, папрасіўся на прыём да Сталіна і быў прыняты.

Трэба адзначыць, што мае бацькі гэтаксама, як у бязвіннасць Галавача, верылі і ў тое, што ён жывы і што аднойчы абзавецца, і рабілі ўсё, каб даведацца пра яго лёс, а, магчыма, і неяк ўмяшацца ў яго. Але за Галавачом быццам бы зачынілася жалезная брама...

Паэт Станіслаў Шушкевіч, рэабілітаваны разам з Галавачом XX з'ездам партыі, на нейкім пасяджэнні ў Саюзе пісьменнікаў БССР пераслаў мне запіску: «Твайго дзядзьку Платона Галавача і Васіля Каваля я бачыў апошні раз 3 кастрычніка 1937 года. Іх прывялі сведчыць супроць мяне. Першым павінен быў гаварыць Галавач. Ён быў вельмі знясілены і доўга маўчаў. Нарэшце Платон Раманавіч загаварыў: «За імі няма ніякай віны, таксама, як і за кожным з нас». Сказаў ён ледзь чутна і заплакаў. Іх хуценька вывелі. А мы неўзабаве даведаліся, што 29 кастрычніка Платона Галавача і Васіля Каваля не стала».

На сцяне камеры, з якой Галавач выйшаў у апошні раз, людзі, калі верыць Міколу Хведаровічу, прачыталі: «Бывайце, таварышы, гісторыя нас рассудзіць!»

Гэта пацвярджае і Сяргей Грахоўскі, спасылаючыся на запіску таго ж зместу, якую яны, вязні, знайшлі ў той самы час за вадасцёкавай трубой.

Адразу ж пасля пісьма ЦК КПСС, якое абвясціла рэабілітацыю бязвінна пакараных у 1937-ым людзей, бацька папрасіў, каб яму паказалі следчую справу П. Р. Галавача.

— Яна была вельмі аб'ёмістай, — расказаў нам бацька, — але ўся яе сярэдзіна аказалася вырванай. Засталіся толькі матэрыялы абвінавачвання і прысуд. Галавач праходзіў па справе як удзельнік трацкісцкай змовы супраць «Кіраўніка Дзяржавы». Такі ярлык навешвалі найбольш шчырым і сумленным беларусам. Да іх літасці не было. Буйны беларускі дзяржаўны дзеяч Галадзед, сябра і аднадумца Галавача, які меў праходзіць з ім па адной справе, не дажыў нават да следства...

Што можна было, калі б нават і хацелася, расказаць дзецям аб стратах, тлумачэння якім не знаходзілася на працягу дзесяцігоддзяў? Пра гэта можна было толькі маўчаць, загнаўшы боль у глыбіні свядомасці, пакуль ён не вырвецца адтуль чымсьці накшталт вершаў цыкла «Маналог»:

**Не бачыўся я ўсё жыццё амаль**
**З сябрамі незабыўнымі маімі.**
**Зноў выклікае на размову з імі**
**Навекі разлучыўшая нас даль.**
**Каня свайго сядлаю і ў дарогу,**
**Цяжэйшую з усіх былых дарог,**
**Кіруюся адзін, — як маналог**
**На пошукі жывога дыялогу.**
**Але ці след спяшацца мне, калі**
**Цень падаўжэў, конь пакалечыў ногі,**
**І там, куды я еду, дыялогі**
**Спяць вечным сном, набраўшы ў рот зямлі?**
**Не прыпыняйся, не жахайся, слова!..**
**Хай адвячорак доўгім ценем лёг —**
**Магчыма немагчымая размова**
**Датуль, пакуль магчымы маналог.**

Вершы цыкла «Маналог», надрукаваныя ў 1965 годзе, Куляшоў прысвяціў не Галавачу, а сябрам свайго юнацтва, паэтам-мсціслаўцам Змітраку Астапенку і Юлію Таўбіну, зазнаўшым тую ж долю, што і Платон Раманавіч.

А апошні раман Галавача, скончаны за некалькі дзён да арышту, як сцвярджаюць яго блізкія, можа, і не загінуў канчаткова. Ён быў у ліку папер, перапіскі і багатай бібліятэкі пісьменніка, канфіскаваных у часе арышту гаспадара. Але З. З. Бародзіч расказваў бацьку ў нашай прысутнасці, што бачыў асобныя раздзелы рамана ў архівах Дзяржаўнай бібліятэкі імя Леніна ў Маскве, калі працаваў там над зборам твораў Галавача пасля яго рэабілітацыі.

Скажыце, ці мог мой бацька захаваць першапачатковую непасрэднасць у зносінах з людзьмі? Ва ўсякім разе, ён не любіў непатрэбных размоў.

А ідылічная карцінка, якая прымроілася мне на пачатку нашай размовы, — з другога псіхалагічнага вымярэння, на жаль.







А. КУЛЯШОЎ. 1977 г.
Фота Ул. КРУКА

# «Я ў вас, беларусы, як дома...»

З асецінскім паэтам Аляксандрам Пухаевым мы знаёмы даўно. Жыве ён у далёкім горадзе Цхінвалі — цэнтры Паўднёвай Асеціі. Там аднойчы давялося і мне гасцяваць цэлы тыдзень сярод добрых сяброў, побач з гарамі ў белых папахах, на берагах хуткаплынных рэк. Гучалі вершы майго асецінскага сябра — іх я пераклаў на рускую мову і чытаў на вялікім святе паэзіі ля помніка, з якога глядзеў на нас велічны Коста Хетагураў.

Пра свой край, пра сваю радзіму Аляксандр Пухаеў піша цудоўныя вершы. І ўжо трыццаць гадоў выходзяць адна за адной яго кнігі, пачынаючы з той першай, якая называецца «Сябры міру». Затым былі «Летнія дажджы», «Памяць», «Дабрыня», «Усмешкі гор», «Дарога і песня».

Амаль кожнае лета прыязджае ён у Віцебск. Тут жывуць яго сваякі. Тут нарадзілася яго жонка. І ў сям'і Пухаевых размаўляюць адразу на трох мовах: рускай, беларускай і асецінскай. І калі перакладае паэт вершы сваіх сяброў-беларусаў, падрадкоўнікі яму не патрэбны. Толькі час ад часу спытае ён у сваёй Ніны, як перакласці тое ці іншае слоўца, што знайшоў на Ушаччыне Рыгор Барадулін.

Пераклаў паэт Янку Купалу (у кнізе «Летняя раса» народны пясняр Беларусі загаварыў па-асецінску), Якуба Коласа (рыхтуецца да друку кніга), Максіма Танка, Пімена Панчанку, Анатоля Вялюгіна, Генадзя Бураўкіна, Анатоля Вярцінскага, Юрася Свірку, Генадзя Кляўко.

Хутка на радзіме паэта ўбачыць свет кніга яго выбраных перакладаў з беларускай паэзіі. У Цхінвалі і Тбілісі выходзяць яго новыя кнігі і аднатомнік выбраных вершаў.

Сёлетнім летам Аляксандр Пухаеў зноў гасціў у нашым горадзе, дзе ўжо не раз любаваўся Дзвіной, схіляў галаву перад помнікам на плошчы Перамогі.

Яго новыя вершы гучаць сёння на беларускай мове ў перакладзе Уладзіміра Папковіча.

Давід СІМАНОВІЧ.

**Аляксандр ПУХАЕЎ**

## *Беларусь*

I

Прайшоў я па грознай і спеўнай
Зямлі,
Дзе баі адгулі,
Дзе буры прамчаліся гнеўна,
Дзе сёння ільны расцвілі,

Дзе спеюць купальскія росы,
Дзе сонца цяплынь раздае,
Дзе жаўранкі поўняць нябёсы,
Дзе трактар руплівы пяе.

Былі гарады зруйнаваны,
Паліты палеткі крывёй.
Героі залечвалі раны
Гаючаю працай сваёй.

Не раз і не два я вярнуся
На гэту святую зямлю.
Я сэрцам люблю беларусаў,
Іх душы і песні люблю.

II

Я крочыў сцяжынаю жніўнай,
Мне бор беларускі спяваў,
Купаўся я ў Нарачы дзіўнай,
У лузе рамонкі ірваў.

Праходзіў праз Буг і праз Нёман,
Нібы праз Ліахву — уброд.
Я ў вас, беларусы, як дома,
Душою люблю ваш народ.

Да вас прыкіпеў я сардэчна,
Нішто мяне не пахісне—
Братэрства і дружба навечна
Карэннем зрасліся ўва мне.

## *Помнікі*

Зыркія зоркі ў бяздонным блакіце,
Гляньце, як зоркі зямныя гараць.
Зорныя помнікі вы палічыце
Тым, хто за волю ішоў паміраць.

Помнікі розныя: з бронзы, з граніту,
З мармуру і з палявых валуноў.
Гэтая памяць, крывёю палітая,—
Гонар салдацкіх дачок і сыноў.

Зыркія зоркі, вам бачны крывавыя
Надпісы — кнігі трагічнай радкі?
Свецяць імёны, пакрытыя славаю,
Яркім, нязгасным агнём праз вякі.

Помнікі помняць: на папялішчы
Хлопчык мурзаты, заўчасна сівы,
Плакаў па родных, якіх вораг знішчыў...
Помнікі помняць рыданні ўдавы.

Помнікі ў жыце, ля шумнай дарогі
Ля пушчы вячыстай маўкліва стаяць.
Зыркія зоркі святой Перамогі
Будуць заўсёды нам шлях асвятляць.

## *Шляхі паэта*

Паэтаў шлях бывае лёгкім рэдка.
Нясе цяжар удумлівы паэт.
Калі песняр ідзе па мяккіх кветках,
Які ў жыцці тады пакіне след?

Паэт душой, спагадаю багаты...
І хоць бывае пуста на стале,
Не патрабуе за паслугі платы.
Яму ўсявышні манкі не пашле.

А муза ставіць новыя умовы,
То лашчыцца, то крывіцца: «Пусці...»
Як іскарка, глыбінна ўспыхне слова.
Плаці, паэт, пакутамі плаці.

Заплача свет — паэтаў боль бясконцы.
Людскому шчасцю век гатоў служыць.
Ён—павадыр, апора, абаронца.
Жыць для сябе — тады навошта жыць?

Паэт на бой заснуўшых уздымае,
Ён перад смерцю мужна запяе.
Знясіленых ён песняй падтрымае,
Знявераным ён сілы надае.

Жыве паэт без урачыстай пыхі,
Памкненняў нашых тайных уладар.
Нясе за нас ён, непрыкметны, ціхі,
Боль нашых думак, нашых душ цяжар.

## *Кінжал*

Кінжал прыгожы ў мяне
Вісіць здаўна ў пакоі.
Быў ён у нашай старане
Заўсёды першай зброяй.

Яго лязо агнём гарыць.
Не даравў абразы.
О, каб умёў ён гаварыць —
Пачулі б мы расказы...

Ён у героя быў — герой,
Нягоднікі дрыжалі.
За праўду ён стаяў гарой,
Калі ёй пагражалі.

Праз пакаленні вандраваў —
Ад бацькі і да сына.
І спаў заўжды, і танцаваў
Ён разам з асецінам.

Кінжал прыгожы у мяне
Вісіць, блішчыць узорам.
І марыць ён аб даўніне —
Яму за лёс не сорам...



# ВЫХОЎВАЕМ — НА ЯКІХ УЗОРАХ?

Магчыма, і нататак бы гэтых не было, каб не тая, досыць выпадковая сустрэча. Давялося трапіць мне ў канцы мінулага года на семінар клубных работнікаў Віцебшчыны. Не сказаць, каб праходзіў ён бурна, ці неяк незвычайна (часам некаторыя вельмі ўжо пурткія «перабудоўшчыкі» лічаць, што калі яны правядуць семінар па перабудове, то і мэта дасягнута). Але вось у гэтай будзённасці, звычайнасці, з даўнімі хваробамі прыхарошвання і бесканфліктнасці, пытанні, якія ўзнімаліся на семінары, выглядалі неяк асабліва трывожна і балюча. Вось што я занатаваў тады ў свой блакнот.

— Што даваць у рэпертуар мастацкай самадзейнасці? Тое, што прапануюць песенныя і метадычныя зборнікі, даўно састарэла, а тое, што прапануюць самі ўдзельнікі, — або на вельмі нізкім мастацкім узроўні, або зусім нейкага невядомага паходжання (з саматужных магнітных стужак, запісаў у альбомах і г. д.).

— Што «круціць» на танцах і дыскатэках? Пугачова і Лявонцьеў, лічаць юныя танцоры, — архаізм. А ні пласцінак, ні магнітных стужак з апошнімі навінкамі няма. Затое ёсць зноў жа сумніцельнага паходжання *запісы, прычым, як ні дзіўна,* найвыдатнейшай якасці. Між тым, у навукова-метадычных цэнтрах няма ні гуказапісваючай *апаратуры, ні запісаў* увогуле.

**У рэдакцыйнай пошце апошняга часу, у прыватнасці, у пісьме нашага пастаяннага чытача з г. Ляхавічы І. В. Дарашэнкі ўзнімаецца пытанне аб стане культурна-масавай работы, аб праблемах і недахопах у гэтай важнай сферы жыцця рэспублікі, аб новым падыходзе да гэтых праблем. «А чаму б,—звяртаецца да рэдакцыі І. В. Дарашэнка,— не асвятляць больш шырока пытанне, звязанае з развіццём мастацкай самадзейнасці на сяле, з работай клубаў і бібліятэк, заклікаsuccessive актыўна прапагандаваць наша мастацтва? Як вядома, болевай кропкай сельскай мясцовасці з'яўляецца цякучасць кадраў культасветработнікаў. Вось бы і заняцца даследаваннем—што там адбываецца».**

**Артыкулы наваполацкага журналіста Наума Гальпяровіча і супрацоўніка Мінскага абласнога навукова-метадычнага цэнтра народнай творчасці і культасветработы Антаніны Хатэнка—яны пісаліся, дарэчы, у адзін час, што па-свойму сімптаматычна,—у пэўнай меры і з'яўляюцца спробай адказаць на пытанне, «што там адбываецца», высветліць некаторыя важныя бакі культурна-асветніцкай работы.**

— Чаму з вясковай сцэны не гучыць беларускае слова? Ні *вершаў, ні рэпрыз, ні п'ес* ці гумарэсак, ні песень нарэшце не пачуеш? Ні плаката, ні лозунга на роднай мове таксама не сустрэнеш.

— Чаму ў вёску не прыязджаюць пісьменнікі, артысты, лектары? Чаму так сумна і ціха ў клубе, нават там, дзе — аксаміт і мяккія крэслы, куды водзяць дэлегацыі і карэспандэнтаў.

І г. д. і да т. п...

Ведаеце, ад падобных пытанняў я нават крыху разгубіўся. Бо задавалі іх дарослыя людзі з адукацыяй, з пасадай, атэставаныя і кваліфікаваныя. Я не хачу агулам абвінавачваць культработнікаў, бо не ўсё, далёка не ўсё залежыць ад іх. Але сама пастаноўка пытанняў гаварыла аб такім інфантылізме, нежаданні змагацца з цяжкасцямі, што стала ніякавата. Асабліва засмучаў я пасля пытання аб паездках у вёску пісьменнікаў, лектараў. Калі я абсалютна шчыра сказаў, што, да прыкладу, наваполацкія літаратары (сярод іх ёсць і лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі, і аўтары першых кніжак, і выканаўцы ўласных песень) адгукнуцца на падобнае запрашэнне на першым за-

# НЕ РАЗБУРАЦЬ, А ЗБІРАЦЬ

Аднойчы прачытала я ў газеце «За рубяжом» цікавую інфармацыю: замежныя вучоныя-генетыкі выказалі думку (пацверджаную даследаваннямі) аб пачатковым выхаванні дзіцяці ў чэраве маці. Аўтар артыкула аргументавана даводзіў, што музыка, размовы, узаемаадносіны людзей — увесь знешні свет адбіваецца на псіхіцы чалавека, які яшчэ толькі мае нарадзіцца. Менавіта гэтым тлумачыцца асаблівая ўвага немаўляці да пэўнай мелодыі (яе часта спявала цяжарная маці) ці адмоўная рэакцыя на аднаго з членаў сям'і, які не жадаў з'яўлення дзіцяці...

Прачытала і падумала: пэўна, рэдка спяваюць сучасныя маці нашы народныя песні ды калыханкі, пэўна, не жыве ў многіх сем'ях роднае слова, інакш чаму растуць дзеці глухімі да сваёй мілагучнай мовы, чаму часта беларуская народная мелодыя выклікае здзіўленне і не прымаецца душой?

Неверагодна, але, бывае, прадстаўнікі іншых нацыянальнасцей танчэй адчуваюць багатую семантыку нашага слова, чым людзі, якіх узгадавала беларуская зямля. Мой знаёмы тэатразнавец. які прыехаў на Беларусь з Ленінграда і ўпершыню пачуў жывое беларускае слова, пачаў вывучаць нашу мову, ён перакананы, што не мае права займацца культурай — даследаваць набыткі нацыянальнага тэатра — без ведання мовы народа, яго духоўных каранёў. А ў культурнай установе, дзе працуе гэты знаёмы, скептычна пасміхаюцца з яго: маўляў, дзівак ды і толькі! А яны ж—культасветработнікі: метадысты, рэжысёры, прапагандысты, яны заклікаsuccessive дапамагаць клубным работнікам праводзіць фальклорныя святы, ладзіць у народным духу кірмашы і г. д.

Дык ці адчуваюць культасветнікі духоўныя карані, ці абапіраюцца на народныя традыцыі ў сваёй асветніцкай дзейнасці? На жаль, не заўсёды. І нараджаюцца ў выніку нязграбныя, непісьменныя сцэнарыі з *безгустоўнымі* тэкстамі, падагнаныя маладасведчаным аўтарам «пад фальклор»:

**За ракою машыны грукочуць**
**Трактарысты жартуюць, рагочуць,**
**І з дзяўчаткамі спяваюць частушкі,**
**Аж зайздросцяць ім рыбы і птушкі.**

Альбо такія вершаваныя «стылізацыі»:

**Жніво, жніво...**
**І песні нават прымоўклі ўсе.**
**Хацела бы я**
**Прапець тут гімн табе, жняя.**
**Ты кожны колас, што раджала**
**Зямля, у руках сваіх дзяржала.**
**І вось — выпрастоўвайце, жанчыны,**
**Свае натруджаныя спіны.**
**Глядзіце, як стаяць камбайны.**
**Зажынкі — гэта свята з святаў.**
**Прыйшоў, прыйшоў той светлы дзень да нас,**
**Калі камбайн жне і малоціць ураз.**
**Прыбраліся — глядзім шчасліва**
**На колас буйны, спелы, наліты.**

Вядома ж, такія «вершы» не ўзрушаць, не крануць за жывое. А, здаецца, і творы класікаў нашай літаратуры перарабляюцца на адпаведны капыл, каб дапасаваць тэкст да пэўнага моманту. Часта аўтары шэрых сцэнарных матэрыялаў — студэнты-завочнікі інстытута культуры, якія не забыліся на родную гаворку, працуючы ў вёсцы, але і не асвоілі як след літаратурную мову. Рускай мовай яны таксама валодаюць, на жаль, не лепей. А мастацкі густ, адчуванне слова як знаку духоўнага жыцця асобы? На асэнсаванне, засваенне гэтых паняццяў не хапае часу. Культработнік на вёсцы (ды і ў раённых цэнтрах) на сямі санях адзін едзе. Вучоба ўпохапкі, сцэнарыі — для залікаў, і таўсцеюць стосы недарэчных, штучных распрацовак для клубных мерапрыемстваў.

Мы паспрабавалі паставіць заслону на шляху халтуры. Дык утвараецца вакуум, які няма чым запаўняць. Прафесіяналы, літаратары без вялікай ахвоты ідуць насустрач Міністэрству культуры. Не ратуюць культуру ад халодных, абыякавых рук. Ці трэба тлумачыць, што там, дзе абыякавасць і няведанне,— *там прафанацыя. Інакш нельга* назваць, скажам, парады выкладчыка інстытута культуры і аўтара шматлікіх сцэнарыяў масавых тэатралізаваных прадстаўленняў П. Гуда. Традыцыйна-беларускае калядаванне, якое спрадвеку існавала як вясёлы, жартаўлівы, па-народнаму мудры звычай, ён прапануе праводзіць па наступнай схеме: дэлегацыя перадавікоў прадпрыемства ці арганізацыі на чале з прадстаўніком партыйных органаў наведвае аднаго з лепшых працаўнікоў калядным вечарам і такім чынам стымулюе працу ўсіх астатніх — маўляў, кожнаму захочацца, каб на наступны год да яго завіталі шаноўныя госці...

Напачатку *падалося*, што гэта не зусім удалы жарт. Аднак аўдыторыя прагна глытала псеўданаватарскія рэкаменда-

кліку, мае субяседнікі ўзрадаваліся. А між тым, наколькі я памятаю, ад саміх культасветнікаў такіх запрашэнняў ніколі дагэтуль не было.

Старая наша прыяцелька паказуха... Пішацца безліч справаздач, складаюцца дыяграмы і лічбавыя лабірынты, падобныя на шыфраваныя звароты да іншых сусветаў і галактык, а клубы... проста пустуюць, адчыняючы свае дзверы ці для ўрачыстых пасяджэнняў, ці для прымітыўных танцулек. Памятаеце, як у передачы ЦТ «12 паверх» вядомы савецкі акцёр і рэжысёр Ралан Быкаў дамагаўся адказу: чаму і, галоўнае, ад каго зачынены клубы?

Я ўжо неаднойчы гаварыў пра тое, што культасветработнікі чамусьці не заўважаюць нават тых, каго абавязаны ведаць, прыцягваць да сваіх асветніцкіх спраў. Я маю на ўвазе, напрыклад, спявачак і спевакоў народных песень, умельцаў, гэтых носьбітаў духоўнай спадчыны народа, без якіх няма і не будзе мастацтва ўвогуле.

Неяк мы з пісьменнікам Уладзімірам Арловым ездзілі па Браслаўшчыне, сустракаліся з цудоўнымі вясковымі людзьмі, сапраўднымі народнымі мастакамі. Вынікам гэтых паездак сталі не толькі рэпартажы, але унікальныя саламяныя брылі, лазовыя кошыкі, вышыванкі. Дык вось, у мясцовым аддзеле культуры пра гэтых майстроў проста не ведалі. Мо і ў гэтым прычына таго, што ў сувенірных крамах замест самабытнага — безліч бяздарных, псеўданародных падробак, якія толькі псуюць густы спажыўцоў?

Калі мы самі зараз адмовімся ад спадчыны, ад бясцэнных каштоўнасцей народнага мастацтва, то з чым застанемся? З духоўным эсперанта? Са спажывецкай масавай культурай?

Магчыма, я гавару занадта агульна? Што ж, давайце больш канкрэтна. Я даволі часта бываю ў адной з лепшых гаспадарак на Віцебшчыне — калгасе імя Сільніцкага Полацкага раёна. Тут, здаецца, усё добра: і клуб, і мастацка-музычны салон з выстаўкай, і музей узводзіцца, нават мастакі з вышэйшай адукацыяй працуюць, і наглядная агітацыя лепшая ў раёне, але...

Нешта не бачу я моладзі ні ў клубе, ні ў салоне. Ды што ім урэшце рабіць, скажам, на выстаўцы, калі вісіць яна, як я памятаю, гадоў шэсць, а новых экспазіцый нешта не нараджаецца? Не, калі наладжваюцца ў раёне агляд ці свята, будзе тут і хор (у ім і сам старшыня калгаса, пашана яму за гэта, спявае), і выканаўцы... Але ж зноў, не для сябе, не для людзей, а для паказухі. Нешта нічога невядома мне пра клубы па інтарэсах, пра «агеньчыкі» ці «гасціныя». Узяло шэфства над калгасам абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў БССР, можа, што зрушыцца ў лепшы бок. Але, баюся, дайсці да кожнага чалавека, да кожнага калгасніка будзе зусім не проста.

Так, пахваліцца пра шэфства над сельскай культурай мы ахвочыя. А вось каб пры дапамозе аддзела культуры ці райкома камсамола знайсці 10—15 мастацкіх вырабаў (хоць бы мясцовых майстроў) для замены экспазіцыі ў выставачнай зале,— тут наш імпэт аціхае...

Колькі слоў пра эстэтыку вёскі. Будуецца зараз вельмі многа. І пра быт сялян клапоцяцца, і пра ўмовы працы. А што часам кідаецца ў вочы? Бруд на дарогах, замок на клубе, афіша пра чарговы фільм з мінімум дзвюма-трыма арфаграфічнымі памылкамі. А вуліцы новыя як называем? Маладзёжная, Жамчужная ці яшчэ «прыгажэй» — Лучазарная. Я падлічыў, што ў кожным раёне сёння не меней дзесятка Маладзёжных. Як жа не задумацца тады, навошта ў кожным раёне архітэктурная служба, аддзел культуры, аддзел культурна-масавай работы райкома камсамола? Хто павінен паклапаціцца, каб не стала ўсё ў нас безаблічным, на адзін капыл, каб не выветрыліся з памяці народнай спрадвечныя і паэтычныя назвы ўрочышч і вёсак, рэчак і вуліц? Нават пры выключнай занятасці ці ў любую суровую часіну селянін не забываўся аздобіць сваю хату няхітрым карункам. Няхітрым, але мастацкім. А колькі мне давялося бачыць зараз пампезных і безгустоўных помнікаў і карцін ля кантор і ў іх саміх, плакатаў і стэндаў, выкананых далёка не па лепшых трафарэтах, прымітыўных у мастацкіх адносінах лозунгаў і розных «дошак галоснасці»!.. Я ўжо не кажу, што слова роднага тут не сустрэнеш, бо хто — выканаўцы? Халтуршчыкі аж з Адэсы ці Малдавіі, Харкава ці Сахаліна. А грошы ж ім перападаюць такія, што нават слынным майстрам у мастацкіх салонах ці закупшчыкам у Міністэрстве культуры і не сніліся.

Нехта ж павінен тут навесці парадак, нехта ж павінен задумацца, на якіх узорах і як мы выхоўваем сельскага жыхара.

Мне неяк ужо даводзілася гаварыць пра рэпертуарныя зборнікі для мастацкай самадзейнасці, пра сцэнарыі для агітбрыгад, пра аднаактоўкі ці «поўнаметражныя» п'есы для народных тэатраў. Жах!.. А ў нас жа ў кожным абласным горадзе — навукова-метадычны цэнтр, Дом мастацкай самадзейнасці, у кожным раёне — РДК. А «ЛіМ» не чытаюць і не выпісваюць, «Бібліятэкі «Вожыка» не знайсці, а паэтычных зборнікаў П. Панчанкі ці Н. Гілевіча, Г. Бураўкіна, Р. Барадуліна ці У. Някляева на паліцах шукаць дарэмна. А што ж тады, як не іх палкія, публіцыстычныя ці сатырычныя творы чытаць з эстрады?..

І апошняе. Сама асоба культработніка, яго кругагляд, яго жыццёвая і грамадзянская пазіцыя. Вельмі хацелася б пабываць на занятках у культасветвучылішчах (у Віцебску ці Гродне, скажам), ці ў нашым паважаным інстытуце культуры. Як і чаму, прабачце, там вучаць маладых людзей? Чаму яны выходзяць адтуль, не разумеючы ні свайго прафесійнага прызначэння, ні задач, якія стаяць перад нашай культурай? Чаму, вяртаючыся на працу ў глыбінку, да жыватворных крыніц мовы, яны часта забываюцца на яе, сваю матчыную мову, і не знаходзяць, прабачце за змрочны каламбур, агульнай мовы з людзьмі, якім сваім мастацтвам абавязаны служыць?

Ды, з другога боку, і стаўленне да іх на месцах зусім не самавітае. Ні зарплаты людскай, ні кватэры, ні пашаны. Затое: на лён, на бульбу, на буракі... Усё роўна, маўляў, лынды б'яце. А яны і б'юць.

А мы — б'ём трывогу. Мы, хто не можа быць абаякавым да таго, як выглядае сёння культурнае жыццё на сяле, якое месца займаюць тут духоўныя здабыткі народа, яго мастацкая творчасць.

Вось на якія думкі навяла мяне сустрэча на семінары культасветработнікаў.

**Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ.**
г. Наваполацк.

---

цыі: у зале сядзелі культработнікі Мінскай вобласці і вучыліся... прафесійнаму майстэрству.

Упэўнена: калядкі па прапанаванай схеме мала хто з прысутных стане праводзіць — свае ж людзі засмяюць. Але як спалучыць традыцыі і сучаснасць, як ажывіць карані, што ўзяць за аснову? Мала хто ведае. Ці не таму, што не надта далучаемся мы да вытокаў народнай культуры, як гэта належыць, ні ў сям'і, ні ў школе, ні ў паўсядзённым жыцці? Спытайцеся ў маладых людзей, хто з іх ведае, якія стравы гатавалі яго продкі, якую вопратку насілі, песні якія шанавалі? Што яны адкажуць?

Памятаю, у Лагойску вырашылі наладзіць кірмаш, заснаваны на нацыянальных традыцыях. Райком партыі быццам бы пагадзіўся з усімі прапановамі абласнога навукова-метадычнага цэнтра народнай творчасці: трэба адраджаць народныя звычаі, трэба далучаць сучасніка да гісторыі. Але ў часе арганізацыі свята работнікі культуры былі не адзін раз прысаромлены за «неразуменне асноўнага»: на полі буракі няма каму ўбіраць, не да свят, маўляў. Можна, вядома, зразумець клопаты гаспадарнікаў. Але плён працы — ці не бярэ ён пачатак у душы? І ці не звёны гэта аднаго замкнутага ланцужка? Думаецца, збяднела вёска на рабочую сілу яшчэ і з-за таго, што ўцякае моладзь шукаць у вялікіх гарадах тых песень-танцаў, якіх сёння не хапае ў родных мясцінах.,

Між тым, горад таксама не заўсёды задавальняе духоўны попыт многіх маладых людзей. Вясковая моладзь, бывае, душой не прыжываецца ў горадзе, не знаходзіць сябе ў размаітай стракатай плыні так званай гарадской культуры. Гэта доказна пацвярджаюць інтэрв'ю Святланы Алексіевіч «Я паехаў з вёскі...», надрукаваныя ў «ЛіМе». Чалавек адчужаецца ад першавытокаў, парушаецца закон духоўнага ўзаемаразумення асобы і грамадства. І спараджаюцца бездухоўнасць, душэўная галеча, функцыяналізм.

Гартаю падшыўку сцэнарных матэрыялаў і метадычных рэкамендацый нашага навукова-метадычнага цэнтра. «Вяселле». Светлае імгненне жыцця. Якім яно будзе, залежыць і ад культработнікаў, ад тых, хто сёння дапамагае зрабіць свята яркім, незабыўным. Чытаю сцэнарый — і душу захліствае радасць: бачу народнае беларускае вяселле, непаўторна-лірычнае, шчодрае на цёплыя пажаданні. Але — бянтэжаць стандартныя рускія тэксты для вядучых. Асацыятыўнасць успрымання раздвойваецца, губляецца каларыт, цэласнасць свята...

«Их каждый шаг достоен обелиска». Методический материал в помощь организаторам клубных мероприятий, посвященных Победе советского народа в Великой Отечественной войне». Добры, змястоўны матэрыял. Не арыгінальны (сістэматызаваныя парады і тэксты з шэрагу саюзных і рэспубліканскіх выданняў), але патрэбны і прыдатны для выкарыстання. Дзіўна толькі, што Пімен Панчанка прапаноўваецца ў перакладзе на рускую мову. Наогул, ніводнага сцэнарыя на ваенную тэму па-беларуску не трапілася. І пра мужнасць рэспублікі-партызанкі сказана напаўголасу, асобнымі штрыхамі...

На жаль, бібліятэку навукова-метадычнага цэнтра народнай творчасці не назавеш скарбніцай народнага мастацтва...

Супрацоўнікі навукова-метадычных цэнтраў народнай творчасці — сярод іх шмат сапраўдных энтузіястаў — прагнуць жывой, дзейснай справы, шукаюць метады рэалізацыі творчых задум. На жаль, часцей за ўсё яны вымушаны выконваць функцыі інспектараў. Бясконцыя камандзіроўкі па раёнах з мэтай нешта праверыць, даследаваць, высветліць, напісаць... Ці садзейнічаюць яны развіццю мастацкай самадзейнасці? Ці шмат карысці грамадству ад калонак лічбаў, якія паспешліва дыктуюцца па тэлефоне?

Невылечная хвароба! Інертнасць мыслення? А калі б усю энергію, затрачаную на збіранне звестак і састаўленне даведак, калі б усе матэрыяльныя сродкі, з'едзеныя міжгароднімі званкамі і тэрміновымі паездкамі, накіраваць у патрэбнае рэчышча?..

Я назірала, як удзячны вяскоўцы людзям, што арганізавалі свята вёскі ці вуліцы, дапамаглі правесці весела і шчыра зажынкі ці дажынкі. Памятаю, як прасілі бабулькі на Мядзельшчыне, успамінаючы свята калгаса «17-га верасня»: «Каб жа вы, дзеткі, часцей такія святы рабілі! І на старасць забываешся...»

Ці ўзяць такі момант. Мы прымушаем людзей запаўняць грувасткія анкеты — вывучаем іх інтарэсы. Але ніводнае навуковае даследаванне гэтак праўдзіва не адлюструе духоўны свет чалавека, як асабісты кантакт з ім. Прынамсі, я не ведаю такога выпадку, каб наша сацыялагічнае анкетаванне падштурхнула грамадскую думку на рэальнае развіццё культуры. Ездзім, просім шчыра адказаць на пытанні, марудна падлічваем крыжыкі і галачкі і... мала верым, што гэта каму-небудзь патрэбна. Дык ці не лепей вывучаць усе праблемы ў працэсе творчай работы? «Іменна культ лічбаў прыводзіць да затаварвання дамоў культуры «прадукцыяй», якая старэе ўжо ў ходзе яе падрыхтоўкі, да сумятні і прыпісак. Нівеліруецца, выхалашчваецца складаны, шматгранны працэс культурна-выхаваўчай работы, які ў сваёй аснове — з'ява творчая» (Мікола Казловіч, «Гэтая салодкагалосая сірэна — лічба!», «ЛіМ», 1.8.86 г.). І з гэтай думкай нельга не пагадзіцца.

Наўрад ці актывізуецца работа ў пахілым, па-сіроцку закінутым клубе ад прыезду прадстаўнічай дэлегацыі метадыстаў і розных правяраючых. Гэты клуб чакае канкрэтнай справы, руплівых рук ды гарачых сэрцаў. А ў нас прыжылася дзіўная завядзёнка — прадбачліва папярэджваць візіты «высокіх камісій»: залатваць, падчышчаць, вывешваць графікі і стэнды.

16 жніўня мінулага года карэспандэнт газеты «Мінская праўда» У. Кобрын выступіў з артыкулам «Быў у вёсцы клуб». Пакуль занядбаны клуб Барысаўскага раёна вёскі Дзедзелавічы сціпла прывыкаў да свайго лёсу, нікога ён не трывожыў. Пасля ж газетнай публікацыі пачалася паскораная ліквідацыя недахопаў у клубнай сістэме Барысаўскага раёна. На працягу амаль тыдня група супрацоўнікаў абласной бібліятэкі імя А. С. Пушкіна і абласнога навукова-метадычнага цэнтра народнай творчасці «працавала» на Барысаўшчыне — рыхтавала клубы і бібліятэкі да праверкі абкомам партыі.

Ці не час адкінуць прэч такія формы і метады «работы»? Паказуха і ёсць паказуха, такая дапамога вёсцы — не дапамога, а мядзведжая паслуга. Ці не лепш было б знайсці энтузіястаў, сродкі, умацаваць клубы кадрамі?..

Аднак кадры ў культуры — пытанне самае набалелае.

Назірала я на Гродзеншчыне, як жыццё карэкціруе ўсе нашы планы. Стаіць на ўскрайку вёскі цагляны сучасны клуб, тужліва глядзіць на дарогу. А непадалёк на лаўцы пад старым клёнам, сабралася моладзь, расказвае анекдоты, узрушана падлічвае, калі ў суседняй вёсцы вяселле будзе, каб патанцаваць удосталь.

Маё пытанне пра клуб усіх развесяліла.

— Чаго туды ісці? Зашмальцаваныя пласцінкі слухаць?

— Мо за гэта яшчэ і грошы плаціць?

— Лепей за дзесяць «кэмэ» на вяселле злётаць. Там хлопцы якую хочаш мелодыю збэцаюць...

Кожны вечар адчыняе абдзелены лёсам клуб сціплая дзяўчынка і адзначае на календары, колькі засталося яшчэ так марнець, пакуль з'едзе вучыцца. А зараз прыходзіць «на работу» і запаўняе патрэбныя некаму ў райцэнтры паперкі. І ніхто на яе не крыўдуе. Людзі прызвычаіліся. Ёсць на вёсцы свае музыкі, спевакі, свае арганізатары. Яны без платных паслуг павесяляць.

А клуб сіратліва сцішыцца ў чаканні новага гаспадара. Адтуль будуць бегчы і дыпламаваныя спецыялісты, пакуль не зойме культура пазіцыі, роўныя іншым сферам грамадскага жыцця. Мяркую, наспеў час па-дзелавому вырашыць праблемы матэрыяльнай базы аддзелаў культуры, якія цяпер знаходзяцца ў становішчы жабракоў: бензін — прашу, грошы на касцюмы — прашу, клуб аформіць няма за што. Праўда, існуюць КСК, і маюць свой спецрахунак, на які павінны паступаць фінансы, адлічваемыя прадпрыемствамі, арганізацыямі, установамі. Ды, на жаль, адлічэнні гэтыя — з'ява выключная. І што самае дзіўнае: сродкі, якія могуць папоўніць касу культурна-спартыўнага комплексу, бухгалтары не ўмеюць правільна, у адпаведнасці з фінансавай палітыкай, аформіць. Каб прыняць на спецрахунак КСК даход ад кірмашовай сельгаслатарэі, у Лагойску, напрыклад, доўга вынаходзілі абгрунтаванні...

Справа, вядома, упіраецца не толькі ў фінансы! Далёка не кожны з нашых спецыялістаў культасветработы дасканала ведае фальклор і этнаграфію, рэжысуру масавых тэатралізаваных прадстаўленняў і харавое мастацтва. А ці зможа ён у такім разе адрозніць традыцыйна-беларускае ткацтва ад гэтага жанру народнай творчасці ў іншых народаў, ці зразумее і ацэніць лексіку нацыянальнага танца?

Мы пачалі адраджаць старадаўнія абрады. Але часта лёс іх зноў-такі залежыць ад людзей недасведчаных. Цяжка бывае адрозніць сацыяльна-бытавы абрад ад рэлігійнага, зразумець сімволіку, размежаваць прыдатнае для нашага ладу і тое, што аджыло свой век. Неабходна ведаць псіхалогію і гісторыю зараджэння абрадатворчай дзейнасці. Патрэбны прафесійны, кампетэнтны падыход.

Можа, хопіць разбураць? Можа, будзем па зернейку збіраць тое, што яшчэ захавалася? А зернейкі пусцяць карані.

**Антаніна ХАТЭНКА,**
**рэдактар Мінскага абласнога навукова-метадычнага цэнтра народнай творчасці і культасветработы.**

**ПРАБЛЕМЫ МЕРКАВАННІ**

# „Гісторыя з геаграфіяй“

**Чаму сярод студэнтаў тэатральна-мастацкага інстытута мала выхаванцаў Мінскага мастацкага вучылішча.**

**У канцы мінулага года Бюро ЦК КПБ зацвердзіла распрацаваныя Саветам Міністраў БССР мерапрыемствы па пытаннях далейшага развіцця выяўленчага мастацтва і павышэнні яго ролі ў камуністычным выхаванні працоўных, умацавання вытворчай і матэрыяльна-тэхнічнай базы. У гэтым дакуменце, у прыватнасці, звернута ўвага на праблему падрыхтоўкі творчых кадраў рэспублікі. У ім адзначана, што неабходна прыняць меры да карэннага паляпшэння вучэбнага працэсу ў Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце, Мінскім мастацкім вучылішчы імя А. К. Глебава і дзіцячых мастацкіх школах... Як будуць вырашацца гэтыя пытанні, што трэба зрабіць, каб выхаваўчы працэс будучых мастакоў у сценах вучылішча і ВНУ адбываўся больш плённа і грунтоўна,—пра гэта нататкі журналісткі Р. Бакуновіч.**

Неяк у адной з перадач «Міжнароднай панарамы» быў паказаны сюжэт аб выкладанні выяўленчага мастацтва ў японскай агульнаадукцыйнай сярэдняй школе. На пытанне карэспандэнта, чаму на выкладанне гэтых дысцыплін у Японіі не шкадуюць часу, адводзячы ім па 6 гадзін на тыдзень, прагучаў нечаканы адказ: «Таму што мы імкнёмся апярэдзіць у развіцці эканомікі іншыя краіны свету». Парадокс? Але ж высокая канкурэнтная здольнасць японскіх тавараў на сусветным рынку абумоўлена не ў апошнюю чаргу іх высокай эстэтычнай вартасцю. Дасканалая функцыянальная форма заўсёды эстэтычная. Няхай гэта аўтамабіль, тэлевізар ці гадзіннік, чамадан або нават якая-небудзь шасцерня. І, вядома ж, неразвіты мастацкі густ — саўдзельнік неахайнасці, вытворчай недысцыплінаванасці, выпуску нізкаякаснай прадукцыі.

Але калі такое дбайнае стаўленне да мастацкіх дысцыплін неабходна **агульнаадукацыйнай** школе, на якім жа ўзроўні павінна быць іх выкладанне ў школе спецыяльнага мастацкага навучання? Асабліва калі мець на ўвазе, што там рыхтуюць не толькі прадстаўнікоў «прыгожых мастацтваў», але і дызайнераў, мастакоў-канструктараў, якім давядзецца працаваць на вытворчых прадпрыемствах, а таксама выкладчыкаў мастацкіх дысцыплін у той жа агульнаадукацыйнай школе...

Менавіта праблемам паляпшэння навучання ў сярэднім звяне спецыяльнай мастацкай адукацыі быў прысвечаны навукова-метадычны семінар, які адбыўся нядаўна ў Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце. У семінары прымалі ўдзел выкладчыкі інстытута і Мінскага мастацкага вучылішча, міжшкольнага вучэбна-вытворчага мастацкага камбіната, работнікі Міністэрства вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі БССР. Такое сумеснае «міжведамаснае» пасяджэнне было наладжана ўпершыню. А выклікана тым, што сярэдняе звяно мастацкага навучання не адпавядае патрэбам вышэйшага, рэзервам якога яно з'яўляецца.

**Прынамсі, усе размовы на семінары, усе спрэчкі тычыліся недасканаласці методык і наогул вучэбнага працэсу ў Мінскім мастацкім вучылішчы. У фае інстытута была арганізавана выстаўка работ навучэнцаў вучылішча — былых абітурыентаў інстытута, якія не сталі яго студэнтамі, бо не вытрымалі конкурсу з выпускнікамі іншых спецыяльных навучальных устаноў розных гарадоў краіны. На аснове аналізу гэтых работ, а таксама на вопыце выпускных экзаменаў у вучылішчы былі пабудаваны даклады прафесароў і выкладчыкаў інстытута, многія з якіх пастаянна ўваходзяць у склад дзяржаўнай экзаменацыйнай камісіі ММВ.**

Якая ж карціна вынікала з гэтых дакладаў і спрэчак?

Штогод у інстытут паступаюць 80—90 чалавек. Сярод іх выпускнікі сярэдніх агульнаадукацыйных школ, студый, вучылішч Кішынёва, Адэсы, Пензы, гарадоў Прыбалтыкі. І, вядома, імкнуцца паступіць у інстытут выпускнікі Мінскага мастацкага вучылішча. Аднак горшую падрыхтаванасць паказваюць менавіта яны, нават тыя, хто скончыў вучылішча на «выдатна». Далёка не ўсе выдатнікі-мінчане вытрымліваюць конкурс, прыёмная камісія інстытута вымушана аддаваць перавагу іншагароднім, хоць зацікаўлена перш за ўсё ў нацыянальных кадрах. Гэта тым больш прыкра, што Мінскае мастацкае вучылішча — адзіная на Беларусі ўстанова, якая дае сярэднюю спецыяльную мастацкую адукацыю, і, значыць, павінна быць **надзейным** рэзервам адукацыі вышэйшай. Адсутнасць **пераемнасці** паміж сярэднім і вышэйшым звяном мастацкай адукацыі выклікае трывогу, непакоіць не толькі спецыялістаў, але і шырокую грамадскасць, што і надало семінару крытычны кірунак.

— Мы сабраліся, каб выявіць асноўныя перашкоды ў справе мастацкага выхавання і навучання, вызначыць захады, якія дапамогуць нам шукаць і знаходзіць таленты,— сказаў, адкрываючы семінар, прарэктар па навучальнай рабоце Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР прафесар Васіль Шаранговіч. — Давайце паглядзім, хто вучыцца ў Мінскім мастацкім вучылішчы, ці маем мы права сказаць, што сюды паступаюць самыя здольныя, самыя таленавітыя? На жаль, не!.. А чаму? У значнай ступені таму, што вельмі звужана поле пошуку талентаў. Больш за шэсцьдзесят працэнтаў навучэнцаў вучылішча — мінчане, больш за трыццаць працэнтаў — выпускнікі агульнаадукацыйных школ іншых гарадоў рэспублікі, гарадскія юнакі з іншых рэспублік. І толькі 2—3 чалавекі з вёскі! Такая вось «гісторыя з геаграфіяй». І тут не толькі пра звужанае поле пошуку талентаў даводзіцца гаварыць, але і пра парушэнне сацыяльнай справядлівасці.

**Гаварылася на семінары і пра тое, што ў вучылішча трапляюць далёка не самыя здольныя яшчэ і з прычыны недасканалай сістэмы прыёмных экзаменаў. Праходзіць па конкурсу той, хто набярэ вышэйшы «сярэдні» бал. Гэта значыць, — што калі абітурыент здасць усе агульнаадукацыйныя дысцыпліны на «5», а экзамены па спецыяльнасці ледзь-ледзь выцягне на «троечку», «троечка» гэтая аніяк не знізіць яго шанцаў на паступленне, бо «прахадны» бал забяспечаны. Ніякіх субяседванняў, ніякіх пытанняў, чаму ты абраў сваёй прафесіяй мастацтва — галіну цяжкую і адказную. «Прахадны» бал ёсць — і добра. Але ж гэта вароты для «сераднячка», для пасрэднасці, хай сабе і вельмі стараннай, акуратнай, дысцыплінаванай. Ці не таму ў вучылішчы амаль дзве трэціх навучальнага кантынгенту — дзяўчаты, якія, як вядома, больш старанныя і дысцыплінаваныя, чым хлопцы? Вядома, сапраўдны талент часта «яршысты», а калі ён глыбока захоплены мастацтвам, дык не заўсёды аднолькава добра паспявае па ўсіх дысцыплінах, аддаючы перавагу адной — самай любімай! І ці не з такіх апантаных вырастаюць потым сапраўдныя мастакі?**

— На гэта ў вучылішчы не зважаюць, таму ўжо пры адборы навучэнцаў там пануе элемент выпадковасці,— зазначыў у сваім выступленні прафесар Віктар Грамыка.

А вось яшчэ адна «прарэха». З 1983 года выкладанне спецыяльных дысцыплін на аддзяленні, якое рыхтуе выкладчыкаў малюнка для сярэдніх агульнаадукацыйных школ, вядзецца па новай праграме, рэкамендаванай Міністэрствам асветы. Па гэтай «прагрэсіўнай» праграме гадзіны на заняткі жывапісам, графікай, малюнкам скарочаны ўдвая (на тыдзень — 4 ўрокі па малюнку ў мастацкім вучылішчы!), затое значна павялічана колькасць заняткаў па розных агульнаадукацыйных дысцыплінах.

— А каго рыхтуе аддзяленне? Мастакоў ці педагогаў для малодшых класаў звычайнай сярэдняй школы? — задаў у сваім выступленні рытарычнае пытанне дырэктар вучылішча А. Краўчук.

Што можна на гэта адказаць? Толькі адно: выкладаць мастацкія дысцыпліны ў звычайнай школе павінен мастак, а не дылетант з дыпломам. І тут дарэчы ўспомніць пра японскую школу, з чаго і пачалася размова. Там выкладанне мастацкіх дысцыплін, выкладанне эстэтыкі вядуць высокакваліфікаваныя майстры сваёй справы, прафесіяналы ў самым высокім сэнсе слова, бо, як ужо адзначалася, нізкі ўзровень мастацкага, эстэтычнага выхавання вучняў — будучых рабочых, тэхнікаў, інжынераў самых розных галін народнай гаспадаркі — аказваецца потым цесна звязаны з узроўнем іх далёкай, здавалася б, ад мастацтва кваліфікацыі. Можна дадаць: і з духоўным аблiччам чалавека, з яго светапоглядам і светаадчуваннем.

Ці не па віне выкладчыкаў-дылетантаў, кепскіх мастакоў гэтак знізіўся ў сярэдняй агульнаадукацыйнай школе аўтарытэт выяўленчых дысцыплін, агульны ўзровень эстэтычнага выхавання школьнікаў, выхавання культуры пачуццяў, якое павінна быць накіравана на фарміраванне эмацыянальна развітай асобы? Тут варта высветліць, як выхоўваюць такую асобу ў сярэдняй школе. Напрыклад, абітурыентам вучылішча на экзаменах пры паступленні прапануюцца тэмы для выяўленчай работы: «Я і мой конь», «Нашы птушкі», «Адпачынак» і іншыя. Ды першыя дзве выклікаюць гучны смех, а «адпачынак» выліваецца ў закуску на траве, дзе прысутнічаюць і напіткі. Вядома, трэба пачынаць з азоў і ў мастацтве, як пачынаюць з буквара, калі вучаць чытаць. Але ж і «азы» сёння іншыя, чым некалі, і буквар зусім не той — ён разлічаны на дзяцей, якія сёння ў пяцігадовым узросце ведаюць і разумеюць больш, чым падлеткі нейкіх дзесяць год назад... Дык чаму ў навучанні мастацтву трэба трымацца за дапатопныя методыкі?

Аднак вернемся да новай праграмы. Згодна з ёй, тэрмін навучання ў вучылішчы скарочаны з пяці год да трох з паловай. Самі выкладчыкі вучылішча, якія выступалі на семінары, гаварылі, што ў такі тэрмін немагчыма ўплываць на кожнага навучэнца паасобку, увайсці з ім у духоўны кантакт, абсалютна неабходны пры выкладанні выяўленчых дысцыплін, — кожны будучы мастак мае патрэбу ў індывідуальным падыходзе да яго. Без гэтага немагчыма развіць талент. Вось і выпускаюць «мастакоў», якім не хапае спецыяльных ведаў, мастакоў без намёку на ўласны почырк, пазбаўленых нават элементарных прафесійных навыкаў. Што і выявіла выстаўка работ навучэнцаў вучылішча. Работы гэтыя падрабязна, без усялякіх скідак, аналізавалі выкладчыкі інстытута А. Чарнышоў, дацэнты А. Арцімовіч і А. Казлоўскі, прафесар М. Данцыг. Яны паказалі, што амаль усім работам бракуе жывога пісьма, яны шэрыя, выкананы без адчування колеру, без уяўлення аб яго магчымасцях.

Тут трэба падкрэсліць, што сярод аўтараў работ ёсць і здольныя людзі, якія калі не сёння, дык заўтра паступяць у інстытут. Але замест таго, каб працягваць працэс іх навучання, развіваць тое, што закладзена было ў вучылішчы, іх давядзецца вучыць нанова. Бо амаль нічога не закладзена, акрамя стэрэатыпаў шкалярскага мыслення.

Усе, хто выступаў на семінары, наракалі на хібы ў методыцы выкладання спецыяльных дысцыплін. Выявілася, што выкладчыкі вучылішча наогул не маюць сваіх методык, запазычваюць іх, хто дзе.

І, вядома, у многіх хібах работы мінскага вучылішча вінавата новая праграма, пра якую тут нямала было сказана.

Не спрыяе навучальнаму працэсу і вельмі слабая матэрыяльная база: заняткі ў вучылішчы праводзяцца ў непрыстасаваных памяшканнях, не разлічаных на спецыфіку выкладання.

Што ж трэба зрабіць, каб выправіць становішча? Па-першае, рашуча мяняць сістэму адбору таленавітай моладзі. Прынцып адбору, які існуе сёння, з'яўляецца рэшатам, праз якое лёгка праходзяць «серадняччкі», а сапраўдныя таленты не могуць праціснуцца праз стандартныя дзірачкі. Чаму б не ўзяць прыклад з сістэмы музычнага выхавання? У Міністэрстве культуры БССР ёсць картатэка дзяцей з вёсак, з раённых і абласных цэнтраў, вучняў сталічных школ, якія маюць музычныя здольнасці. Думаецца, што складанне падобнай картатэкі наспела і для сістэмы мастацкага навучання. Работа, вядома, карпатлівая, але неабходная. Яна дасць выхад у «глыбінку», дзе ёсць нямала здольнай дзятвы. З дапамогай раённых аддзелаў культуры можна выявіць нямала тых, хто з цягам часу па праву таленту зойме сваё месца сярод навучэнцаў вучылішча.

Ёсць, відаць, сэнс адмовіцца ад новай праграмы і вярнуцца да старой. А галоўнае, наспеў час выпрацаваць адзіную методыку і наладзіць навучанне па ёй ад ніжэйшага да вышэйшага звяна. А для гэтага неабходны адзіны метадычны цэнтр, міжведамасны савет па мастацкім выхаванні ў рэспубліцы.

Вось такія праблемы і пытанні былі ў цэнтры гаворкі на семінары. І ў гэтым яго плён.

**Р. БАКУНОВІЧ.**

**З ПОШТЫ «ЛІМА»**

## КОЖНЫ Ж ШКОЛЬНІК ВЕДАЕ...

**«Вячэрні Мінск», відаць, адзіная газета ў нашай рэспубліцы, што выходзіць на рускай і беларускай мовах. Няма нічога дзіўнага, што часам пры перакладзе тэкстаў адно слова можа выпадкова замяніцца другім, блізкім па значэнні. Але не ў тым выпадку, калі размова ідзе пра назвы твораў нашых класікаў. Кожны школьнік скажа, што першы зборнік вершаў Я. Коласа называўся «Песні жальбы», а не «Песні журбы», пералічыць паэмы Я. Коласа «Рыбакова хата», а не «Хата рыбака», «Адплата», а не «Помста», «На шляхах волі», а не «На шляхах свабоды», як падае «Вячэрні Мінск» (ад 14.X.1986 г.) у артыкуле М. Жыгоцкага «За шчасце роднага краю». Дарэчы, герой паэмы «На шляхах волі» — Барыс Дзяжа, а не Дзежа, як падае газета. Факт дзіўны і незразумелы, асабліва калі ўлічыць, што ў рэдакцыі ж, напэўна, працуюць людзі з вышэйшай гуманітарнай адукацыяй.**

**А факт гэты — не адзінкавы. «Вячэрні Мінск» частавата дапускае такія памылкі.**

**Ганна ДЗІСКО,**
**супрацоўнік Першамайскага Дома піянераў г. Мінска.**

## ШУКАЮ БЕЛАРУСКІЯ ЗНАЧКІ

**Захапленне гэта прыйшло не адразу. Заўсёды, калі пакідаеш нават на нейкі час родны кут, хочацца мець нешта памятнае, адметнае. Так здарылася са мной, калі мне давялося з Оршы на пяць гадоў паехаць у Ленінград. Тады ўзнікла жаданне набыць што-небудзь на памяць аб Беларусі.**

**Так у мяне з'явіліся мае першыя беларускія значкі. Было іх тры. Адзін з выявай Я. Коласа, а два з відамі Оршы. Пасля кожнай паездкі дамоў я заўжды прывозіў некалькі значкоў. Паступова складалася мая калекцыя, калі можна яе так назваць, беларускіх значкоў.**

**Шчаслівы выпадак звёў мяне з цікавым чалавекам — Давыдзенкам Мікалаем Іванавічам, украінцам па нацыянальнасці, які пасля вайны асеў у Ленінградзе, — сапраўдным фалерыстам. Якая ў яго была калекцыя! Больш чым пяць тысяч значкоў! Але ўразіла мяне не столькі колькасць, колькі тое, што ўсе значкі былі прысвечаны Украіне. З іх толькі Т. Шаўчэнку было прысвечана больш за трыста.**

**З таго часу я і пачаў сур'ёзна захапляцца беларускай фалерыстыкай.**

**Значкі ў мяне самыя розныя. Прысвечаныя розным юбілеям, датам. Ёсць значкі з выявай гербаў беларускіх гарадоў. Заўсёды радуюся, калі сустракаю значкі, прысвечаныя знакамітым людзям Беларусі. На жаль, іх у мяне вельмі мала. І не таму, што я не здолеў іх сабраць. А таму, што ў нас такія значкі амаль не вырабляюцца. Меркуйце самі. Я. Купалу прысвечана ўсяго 11 значкоў, Я. Коласу — 7, М. Багдановічу — 2, У. Караткевічу, Я. Драздовічу, В. Харужай, К. Заслонаву, М. Шмырову, К. Арлоўскаму — па адназму. А значкоў, прысвечаных Цётцы, Скарыне, Каліноўскаму, Бядулі, юбілеі якіх мы адзначалі ці збіраемся адзначыць, зусім няма. Трэба, каб людзі, якія адказваюць за правядзенне розных юбілеяў, тых ці іншых значных падзей у жыцці Беларусі, клапаціліся і аб вырабе значкоў да гэтых падзей.**

**Што яшчэ непакоіць мяне? 1507 значкоў, прысвечаных Беларусі, у маёй калекцыі, але толькі 211 з іх—на беларускай мове. (Сюды я не ўключыў тыя тэксты, якія гучаць аднолькава як па-руску, так і па-беларуску). У свой час тэлечасопіс «Роднае слова» падымаў гэта пытанне. Але справа так і не палепшылася.**

г. Орша

**А. СЯРОЖКІН,**
**рабочы.**

Аляксандр ШАБАЛІН

# АД КАНА ДА МАНАКА

II

Прыгожы блішчасты аўтобус табачнага колеру з пукатым ярка-пунсовым перадам, падобны, пэўна, з вышыні на запаленую цыгару, папыхкваючы амаль нябачным шызым дымком, шпарка бяжыць па шырокай бетоннай аўтастрадзе, што працягнулася наўсцяж па ўзбярэжжы Міжземнага мора. Маршрут экспрэса, у салоне якога ўладкаваліся экскурсанты — удзельніцы і госці XI чэмпіянату свету па міжнародных шашках сярод жанчын, што праходзіць у французскім горадзе Кан, пралягае ў княства Манака.

Так, так, менавіта княствам называецца гэтая самая маленькая (выключаючы Ватыкан) дзяржава Заходняй Еўропы. Яна займае плошчу ўсяго ў 1,9 квадратных кіламетра, а вось жыве на гэтай малюсенькай тэрыторыі больш як 25 тысяч чалавек. Уяўляеце, на кожны квадратны кіламетр плошчы тут прыходзіцца амаль 13 тысяч жыхароў. Такой шчыльнасці насельніцтва не мае ніводная краіна свету.

Размясцілася незвычайнае княства амаль на стыку дзвюх такіх буйных дзяржаў, як Францыя і — рукой падаць — Італія. Увогуле ж, Манака не мяжуе ні з адной другой краінай, акрамя Францыі, і як бы паглынаецца ёю, выглядаючы маленечкай брошачкай на карце Французскай рэспублікі. Фармальна граніцы паміж Манака і Францыяй не існуе. Едзь туды ці сюды, калі хочаш і на колькі хочаш, не клапоцячыся ні пра візы, ні пра нейкія там таможныя фармальнасці.

Справа ў тым, што, з'яўляючыся канстытуцыйнай спадчыннай манархіяй, княства з 1918 года фактычна знаходзіцца пад пратэктаратам Францыі. Па канстытуцыі 1962 года заканадаўчая ўлада тут належыць князю і Нацыянальнаму савету (парламенту), а выканаўчую ўладу ажыццяўляе Урадавы савет. Яго ўзначальвае дзяржаўны міністр, які, паводле традыцыі, павінен быць грамадзянінам Францыі. Княства мае сваіх дыпламатычных і консульскіх прадстаўнікоў у 45 дзяржавах свету, а ў астатніх краінах яе інтарэсы прадстаўляе Францыя.

Да сказанага цікава дадаць, што падданых Манака — манегаскаў — у краіне налічваецца ўсяго чатыры з паловай тысячы чалавек, а абсалютную большасць насельніцтва складаюць французы, якія жывуць тут стала. Не мае Манака і сваёй арміі—ахову княжацкага палаца нясе наемная гвардыя з 30 ладна вымуштраваных карабінераў, а 250 паліцэйскіх забяспечваюць у краіне грамадскі *парадак*.

Ад Кана да Манака — гадзіны тры язды. Весела гамоняць у аўтобусе дзяўчаты, пазбавіўшыся, урэшце, хоць на нейкі час ад *турнірнай цішыні*. Яны і выглядаюць інакш, чым там, за шашачнымі столікамі канскага фестывальнага палаца.

Высвятляецца, напрыклад, што спакойная і засяроджаная ў турнірнай зале юная галандская прыгажуня Карын ван Літ — сапраўдная гарэза, жвавая і шчабятлівая, што канарэйка. Дарэчы, вызначылася Карын у Кане не толькі сваёй адметнай абаяльнасцю, а і глыбокай, не па гадах сталай гульнёй. У выніковай табліцы чэмпіянату свету яна стала лепшай сярод замежных удзельніц, заняла ганаровае пятае месца, адразу ўслед за савецкай чацвёркай.

А вось француженка Івона Баніфуа, немаладая ўжо жанчына, удзельніца ледзь не ўсіх папярэдніх чэмпіянатаў свету, тут, у аўтобусе, — сама засяроджанасць, а ў часе гульні — экспансіўная і нават эксцэнтрычная, што дзіця. Яна ўвесь час у руху. То ўскочыць са стула, то зноў сядзе. Дастане раптам з сумачкі насоўку, і, выявіўшы, што яна ёй зараз не патрэбна, неяк спуджана хавае назад. Пракрэсліць у паветры кончыкам аўтаручкі магчымыя варыянты сваёй партыі і, не зрабіўшы ходу, пераключыць на саперніцу ход гадзінніка, які фіксуе адведзены на абдумванне хадоў час. Заўважыўшы здзіўленне апанenткі ці проста ўцяміўшы, што робіць не па правілах, тут жа праводзіць адваротную аперацыю.

*Засмучана пазірае на імяністых саперніц* і больш маўчыць, чым гамоніць, самая маладая ўдзельніца спаборніцтваў шашнаццацігадовая Крыся Качмарык, прызёр шашачнага чэмпіянату Польшчы, навучэнка медыцынскага вучылішча з Лодзі. Побач з ёй прадстаўніца Нідэрландаў Петра Полман, на вуснах якой заўсёды, нават у часіны турнірных няўдач, блукае даверлівая, крыху самотная і па-руску адкрытая ўсмешка. Поўны невыказнай таямнічасці выраз твару ў шматразовай чэмпіёнкі Бельгіі, элегантнай сівагаловай лэдзі Бэтсі Дэмерс.

Ну, а ў цэнтры ўвагі, што і *казаць, заўсёды дружная і непераможная* чацвёрка савецкіх дзяўчат: пяціразовая чэмпіёнка свету, выпускніца Беларускага дзяржаўнага інстытута народнай гаспадаркі Алена Альтшуль, прызёр чэмпіянату свету (а зусім нядаўна — уже чэмпіёнка свету!) студэнтка Беларускага інстытута фізкультуры Зоя Садоўская, неаднаразовая *чэмпіёнка Савецкага Саюза*, псіхолаг з Вільнюса Жывіле Рынгялене і экс-чэмпіёнка свету, матэматык з Харкава Вольга Левіна. Усе — гросмайстры, усім — да дваццаці пяці, і кожная паказала сябе ў Кане малайцом, з гонарам адстаяўшы высокі спартыўны прэстыж Радзімы.

Вызначаліся нашы дзяўчаты не толькі традыцыйнай сціпласцю, дружалюбнасцю да саперніц, але і зайздросным спартыўным азартам у барацьбе за чэмпіёнскі тытул. Мала хто, напрыклад, чакаў якой-небудзь бойкі ў сустрэчы землячак А. Альтшуль і З. Садоўскай. Справа ў тым, што ў гэтай партыі абедзвюх задавальняла нічыя, якую гросмайстры робяць звычайна без лішняй затраты нервовых і фізічных сіл. А Алене і Зоі варта было яшчэ і паберагчы сябе, бо ў наступныя туры іх чакалі надзвычай сур'ёзныя саперніцы. І тым не менш, змагаліся нашы дзяўчаты да апошняга патрона, прайшлі, што называецца, па лязу нажа, перш чым змірыцца з *нічыйным вынікам*.

На такое здольныя толькі сапраўдныя байцы, для якіх высокая ўнутраная годнасць — даражэй за любую турнірную кан'юнктуру.

Прыгадваю сітуацыю на кватэры масье Спітца, які запрасіў да сябе ў госці членаў савецкай каманды напярэдадні чэмпіянату. Адзін з сыноў гаспадара, сімпатычны хлопчык гадоў васьмі, папрасіў згуляць з ім у шашкі каго-небудзь з нашых дзяўчат. Выбар паў на Вольгу Левіну. Тая збянтэжылася, адчуваючы, што паядынак будзе няроўным — міжнародны гросмайстар супраць навічка, — але адмовіць хлопчыку не змагла. Ужо ў дэбюце маленькі Спітц трапіў у цяжкае становішча. Бачу слёзы на яго вачах, адчуваю пакуты бацькі, расчараванага ходам паядынку, і неўпрыкмет шапчу Вользе: «Паддавайся. Шкада малога». А тая сама ледзь не плача: «Не магу. Не чэсна». І тут на дапамогу юнаму маэстра прыходзіць чэмпіёнка свету Алена Альтшуль. Нечаканым манеўрам яна дапамагае яму выбрацца з пасткі, і партыя, на радасць усім, заканчваецца ўнічыю. Перамагла, як кажуць, дружба!

Час ад часу аўтобус збаўляе *ход — гэта трапляюць па дарозе* невялікія населеныя пункты, казачна ўтульныя, па-паўднёваму шматколерныя і вельмі чысценькія, як бы толькі што вымытыя.

Пейзажы за вокнамі экспрэса, нягледзячы на ўсю іх чароўную экзатычнасць, даволі аднастайныя. Справа — блакітныя хвалі Міжземнага мора, злева — шэра-зялёныя горныя масівы. Шэрыя — ад колеру скал, зялёныя — ад мноства зараснікаў.

І думкі міжволі скіроўваюцца ў рэчышча тых падзей і клопатаў, якімі жыў і жывеш усе апошнія дні, у таямнічую і хвалюючую атмасферу міжнароднага фестывалю інтэлектуальных гульняў. Прыгадваюцца словы даўгалыгага палісмена: «Жыццё — гульня»...

Чаму ж, сапраўды, увесь свет у нешта гуляе ці ў нечым спаборнічае? Я маю на ўвазе толькі сапраўдныя, натуральныя гульні і спаборніцтвы — ад просценькай лапты да такіх, як *гонкі на віндсерфінгах* ці акрабатыка на скейтах. Колькі іх, відаў спартыўнага і інтэлектуальнага праціборства — агульнапрызнаных і непрызнаных, алімпійскіх і неалімпійскіх, нацыянальных, самадзейных, прыдуманых проста дома, у сям'і — не злічыць.

Мільярды чалавека-гадзін выдаткуюць штодзень зямляне на гульні з мячыкам і шайбай, фярзём і шашкай, ракеткай і бітай... А далучыце да ўдзельнікаў турніраў і чэмпіянатаў, да звычайных аматараў яшчэ незлічоныя арміі апантаных балельшчыкаў, што скаланаюць шматтысячнымі воклічамі стадыёны і спартыўныя залы, прымушаючы хапацца за галовы *работнікаў энергазабеспячэння*, даводзячы да крытычнага стану напружанне ў электрычных сетках у часе трансляцый па тэлебачанні найбольш адметных спартыўных відовішчаў.

Навошта ўсё гэта? Чаму? Дзеля чаго?..

Аўтобус, між тым, збаўляе хуткасць і павольна, амаль урачыста ўязджае ў Ніццу — некаранаваную сталіцу міжземнаморскай курортнай Рыўеры. Нечым яна нагадвае нашу Ялту, толькі горы тут вышэйшыя, ды колькасць жыхароў у пяць-шэсць разоў большая, чым у галоўным курорце Крыма.

Вядомая Ніцца і як радзіма правадыра італьянскай рэвалюцыйнай дэмакратыі Джузэпе Гарыбальдзі. Гэты горад увогуле даволі старадаўні. Гістарычныя хронікі сведчаць, што яшчэ за 300 гадоў да нашай эры на месцы сучаснай Ніццы была заснавана грэчаская калонія Нікея, з якой з цягам часу і вырас сённяшні курорт-прыгажун. Да III стагоддзя нашай эры Ніцца настолькі ўзмужнела, што надоўга стала рэзідэнцыяй тагачасных епіскапаў.

Гэтыя звесткі пра Ніццу савецкія дэлегаты атрымалі, яшчэ калі былі ў гасцях у Спітцаў. Тады ж мы з'ездзілі і на мясцовыя могілкі, усклалі кветкі да магілы Аляксандра Герцэна. Выгнаннік царскага ўрада, ён шмат гадоў правёў за мяжою, тут *памёр* і *пахаваны*. З хваляваннем даведаліся мы, што ў 1909 годзе, у часе знаходжання ў Ніццы, магілу А. І. Герцэна неаднойчы наведваў Уладзімір Ільіч Ленін, аддаючы пашану свайму слаўнаму суайчынніку.

Хацелася б дадаць яшчэ адзін штрых да партрэта Ніццы, які сведчыць, што гэты лагодны з выгляду курортны горад можа, калі трэба, паказаць і свой мужны, цвёрды характар. 14 лютага 1950 года працоўныя Ніццы, пратэстуючы супраць агрэсіўнай палітыкі тагачаснага свайго ўрада і яго амерыканскіх натхніцеляў, скінулі ў мора ўстаноўку для ракетных снарадаў «ФАУ-2» і іншыя ваенныя матэрыялы, якія прызначаліся для войскаў, што вялі захопніцкую вайну ў В'етнаме.

Мінаем гарадскую рысу, і зноў паабапал дарогі — мора ды горы. Горы ды мора...

Дык вось, дзеля чаго людзі ў гэткіх масавых маштабах асуджаюць сябе на спартыўныя пакуты? Ці мала ў іх іншага клопату, апроч як высвятляць, хто дужэйшы ды спрытнейшы? Ці няма дзе бавіць вольны час?

Што, скажам, прываблівае ў шашках вось гэтых маладых дзяўчат і сталых жанчын, такіх розных па характарах, роду занятку і такіх падобных у сваёй адданасці старадаўняй гульні? Можа, проста імкненне сцвердзіць сябе? Прычым, не столькі ў вачах саперніцы ці іншых асоб, а найперш — самой сябе? Можа, менавіта ў гульнях зашыфравала прырода механізм чалавечага самакантролю, праверкі, на што ён здольны, чаго вартыя яго інтэлект і воля, калі гаворка ідзе пра тыя ж шашкі, а калі мець на ўвазе іншыя віды спорту — дык яшчэ мускулы, хуткасць рэакцыі, пластыка, а ўрэшце — характар? Бо калі *спазнаеш, на што ты здатны*, а на што — не, дык адкрыеш і шляхі ўласнага ўдасканалення...

Лічыцца, праўда, што заняткі фізкультурай і спортам скіраваны на ўмацаванне здароўя чалавека. Яно, канечне, так, калі браць пад увагу сціплыя кросы «бягом ад інфаркту», ранішнюю фіззарадку ці аэробіку. Але ж у спорце бываюць звышгранічныя нагрузкі на чалавечы арганізм. Адны імкнуцца падняць над галавой вагу, большую за два з паловай цэнтнеры, другія — адолець вышыню за шэсць метраў, трэція — бегчы з хуткасцю, падуладнай аўтамабілю. Дык што — усё гэта ўмацоўвае хрыбет чалавека, *яго сэрца і нервовую сістэму?* Наўрад.

А можа, я памыляюся, можа, якраз нервовай разрадкі і шукаюць людзі ў спорце? Імкнуцца адысці на нейкі час ад прывычных, часам, проста абрыдлых будзённых клопатаў, перавесці свае перагружаныя псіхічныя цэнтры ў зусім іншых стрэсаў і страсцей?..

Увогуле ж, мінаючы падрабязнасці, мяркую, што ўсялякая гульня, асабліва інтэлектуальная, таму так палоніць чалавека, што з'яўляецца своеасаблівай мадэллю рэальнага жыцця, з усімі яго страсцямі, рызыкай, сумненнямі, пераадоленнямі, горычу паражэнняў і асалодай перамог. Не выпадкова ж і гаворым мы, што чалавек пазнаецца ў гульні. Як у жыцці, так і ў гульні.

Можна, канечне, прымаць усе гэтыя развагі з іранічнай усмешкай — *нашто*, маўляў, так сур'ёзна пра нейкія забавы! — а можна, падумаўшы, паставіцца да іх і сур'ёзна. Справа чытача. І гэта, на жаль ці на радасць, ніяк не паўплывае на той дзіўны чалавечы феномен — прагу да гульні, які існаваў спрадвеку, існуе сёння і будзе існаваць, напэўна, заўтра і паслязаўтра. А вось дзеля чаго — няхай адказ на гэтае пытанне пашукаюць спецыялісты. Філосафы, напрыклад. Ці сацыёлагі. Ці паэты, якім падуладна спасціжэнне любых таямніц...

Прыдрамаўшых у аўтобусе дзяўчат абуджае гучны вокліч масье Раймонда Пікара, кіраўніка паездкі, міжнароднага спартыўнага арбітра, галоўнага суддзі *шашачнага чэмпіянату*, элегантнага, падцягнутага бельгійскага пажарніка. Масье Пікар ужо на пенсіі, але ў асабліва ўрачыстыя дні любіць апранаць, як у гады бурнай, мяркуючы па ўсім, маладосці, свой парадны мундзір з чатырма рознакаляровымі рысачкамі-нашыўкамі на грудзях. Гэта, як растлумачыў масье Пікар,—адзнакі чатырох яго службовых подзвігаў, здзейсненых у свой час пры тушэнні пажараў.

У Раймонда Пікара надзвычай строгі выгляд. А сэрца — добрае і чулае. Ён, мабыць, спецыяльна адрасціў густую шчотачку вусоў, каб хаваць пад імі сваю лагодную ўсмешку, ды наўмысна начапіў на вочы масіўныя акуляры — каб не паказваць заўсёднай мяккасці свайго позірку.

А яшчэ Раймонд Пікар — рафінаваны педант. Кожны крок у яго распісаны з дакладнасцю да мінуты, кожны рух прадуманы і нават, здаецца, наперад адрэпеціраваны, кожная папера пранумаравана і бездакорна *аформлена*. Барані божа каму-небудзь парушыць гэты расклад. Літасці не чакай. Аднойчы Вольга Левіна забылася паставіць пасля гульні ў бланку свой подпіс. Фармальнасць — не болей, але Пікар ледзь не залічыў ёй за гэта паражэнне. Ён пагражаў увогуле выключыць віцэ-чэмпіёнку з турніру і адправіць дадому. Ніякія афіцыйныя *прадстаўленні і пратэсты* на Пікара не дзейнічалі. І толькі калі ў адной з прыватных гаворак я зачапіў арбітра за жывое — прыгадаў ягоную прафесійную прыналежнасць і сказаў, што пажарнаму больш пасуе, калі ён тушыць пажар, чым калі яго раздзімае, масье Пікар памякчэў, кашлянуў для важнасці ў кулак і адмяніў сваё папярэдняе рашэнне, спадзеючыся, відаць, зарабіць і пятую каляровую стужку на мундзіры — за адвагу, праяўленую ў пажарнай сітуацыі.

Пікар падыходзіць да Карын ван Літ, якая ўладкавалася на пярэднім сядзенні, з ветлівай патрабавальнасцю бярэ ў дзяўчыны вязаную шапачку і, выставіўшы яе перад сабою, робіць крок у глыб салона. У шапачку пасыпаліся першыя манеты. Збор, як высветлілася, вёўся для вадзіцеля аўтобуса. Той прыняў даніну спакойна, як належнае, толькі падзякаваў пасажырам узмахам рукі.

Што ж, у розных мясцінах і розныя традыцыі: дзе гасцям даюць, дзе з іх бяруць.

**Заканчэнне. Пачатак у нумары за 23 студзеня.**

Памятаю, як у фестывальным палацы нашы спартсменкі і трэнеры раздорвалі направа і налева прывезеныя з Мінска, Вільнюса, Харкава савецкія шашачныя кнігі, якія за мяжой у вельмі вялікай цане. А тым часам адзін заходні госць турніру, наш знаёмы, даволі абаяльны і інтэлігентны чалавек, зафрахтаваў у холе невялікі столік, расклаў на ім кніжкі майстроў-суайчыннікаў, прымацаваў да кожнай бірачку з цаной і спакойна гандляваў сваім спакуслівым для шашыстаў таварам.

Гэтак жа і прадстаўнік федэрацыі — арганізатар турніру на кожны падараны яму значок дзелавіта дарыў свой. А калі яму сыпнулі чатыры значкі, намякаючы на поўную бескарыслівасць дарунка, ён неяк збянтэжана заматаў галавой і адлічыў субяседніку ўзамен за ўзятыя роўна чатыры свае значкі.

Сапраўды, на поўначы свае звычкі і традыцыі, на ўсходзе — свае, на захадзе — свае...

Ажыўленне запанавала ў аўтобусе, калі за чарговай паваротkай нечакана адкрылася ва ўсёй сваёй прыгажосці панарама Манака — дзівоснага княства на ўзбярэжжы Міжземнага мора, якое ўтвараюць тры горады, што зліліся ў адных межах: Манака, Монтэ-Карла і Кандамін.

Кожны з гэтых гарадоў-трайнят завяваў сваё месца пад міжземнаморскім сонцам. Кандамін, у якім пражывае амаль палова ўсяго насельніцтва княства, размясціўся на самым беразе заліва. Ён вабіць заезджых сваімі магазінамі, атэлямі, шыкоўнай водалячэбніцай. Манака—сталіца княства—ускараскалася на добра выраўнены скалісты выступ Прыморскіх Альпаў, які ўзвышаецца над узроўнем мора на 60 метраў. Тут усяго дзве вузенькія вуліцы, на якіх жыве крыху больш за дзве тысячы чалавек. Яшчэ адзін скалісты выступ адваяваў сабе Монтэ-Карла, горад рэстаранаў і кабарэ, кінатэатраў і канцэртных залаў, музеяў і экзатычных садоў.

Аўтобус спыніўся нечакана, як толькі перасек граніцу княства. А калі пасажыры, нічога не падазраючы, вырашылі выйсці з машыны, каб крыху размяцца на свежым паветры пасля доўгай язды, то ўбачылі, што прыпынак гэты не выпадковы. Кожнага вітаў тут невысокі, сярэдніх год, ужо схільны да паўнаты, але надзвычай рухавы мужчына ў дарагім выхадным гарнітуры, з нязменнай французскай усмешкай на тварах. «Аглеардзі», — коратка прадстаўляўся ён кожнаму госцю, добразычліва працягваючы сваю тоўсценькую далоньку. Гэта быў вядомы ў шашачных колах міжнародны майстар, які жыве ў Манака, але нязменна выступае за французскую зборную.

Калі ўсе згрупаваліся вакол ветлівага гаспадара, ён, як бы жадаючы паказаць, чаго варты, папрасіў у аднаго з гасцей запаленую цыгарэту, заціснуў яе ў кулак, зрабіў некалькі таямнічых рухаў, і... цыгарэта знікла. Праз імгненне яна паказалася ўжо за вухам Аглеардзі, і ён, на дзіва ўсім, хто стаяў паблізу, «праткнуў» ёю мочку вуха, пасля чаго вярнуў цыгарэту, цэлую і непашкоджаную, уладальніку.

Пасля абеду масье Аглеардзі павёз гасцей на экскурсію ў славутае казіно, мяркуючы, відаць, што тых, хто гуляе ў шашкі, захопіць і гульня ў рулетку.

Ехалі па вузенькіх, пакручастых вулачках Монтэ-Карла, і масье Аглеардзі паведаміў, што менавіта тут праводзяцца сусветна вядомыя аўтамабільныя гонкі «Гран-пры». Жахліва было ўявіць, што небяспечную трасу працягласцю ў 3,328 кіламетра гоншчык павінен прайсці менш чым за паўтары мінуты. Кожныя тры—чатыры секунды яму даводзіцца пераключаць хуткасць, а большасць віражоў такія крутыя, што, адольваючы іх, вадзіцель вымушаны сціскваць бег аўтамабіля з 200 кіламетраў у гадзіну да 40.

Раптам у аўтобусе стала цёмна-цёмна — мы ўехалі ў тунель працягласцю прыкладна 150 метраў. Тут, паведаміў Аглеардзі, самы небяспечны ўчастак «Гран-пры». Змена яркага сонечнага святла на паўзмрок, а потым зноў на яркае святло выклікае ў некаторых выпадках пры гэткім нервовым напружанні кароткачасовую слепату. І тады машыны ляцяць з набярэжнай прама ў заліў, як гэта здарылася ў 1955 годзе з італьянцам Альберта Аскары ці яшчэ праз дзесяць гадоў з аўстралійцам Паўлем Хокінсам. «Віражом у небыццё» называюць гэты кавалак трасы спецыялісты. Вось ужо дзе сапраўды жыццё пераўтвараецца ў гульню. У гульню, на жаль, са смерцю...

Але галоўная прыкмета Монтэ-Карла — гэта, бадай, вядомае на ўвесь свет гранд-казіно, ігральны дом, у сценах якога за сціплымі рулетачнымі сталамі, абцягнутымі накшталт більярдных зялёным сукном з незразумелай недасведчанаму воку расшоткай лічбаў і ліній, у знешне прыстойнай, нават цнатлівай цішыні, адбываюцца такія штормы пачуццяў і эмоцый, якія і не сніліся Міжземнаму мору, нават калі яго разгойдвала да дзевяці балаў...

Першы ігральны дом быў адкрыты ў Монтэ-Карла яшчэ ў 1861 годзе. Ён гэтак хутка заваяваў папулярнасць у шукальнікаў лёгкага шчасця ці тых, каму муляе бакі тугі кашалёк, што неўзабаве Міжнароднае акцыянернае таварыства марскіх купанняў пабудавала ў горадзе сапраўдны палац казіно. З усяго свету сталі з'язджацца сюды багатыя турысты, у Монтэ-Карла пачалі расці шыкоўныя атэлі, рэстараны, кабарэ. «Ігральны рай» — так нараклі Манака ў свеце.

І хаця сёння краіна робіць істотны ўхіл на развіццё прамысловасці і дасягнула ў гэтай справе пэўных поспехаў, экспартуючы высакаякасныя электронныя вузлы і прыборы, электрычныя рэле і шэраг іншых тэхнічных прыстасаванняў, якія знайшлі выкарыстанне нават на амерыканскіх касмічных караблях, — усё ж, нягледзячы на ўсё гэта, не згасла і былая ігральная слава Монтэ-Карла.

Казіно ўзвышаецца, як скала, на самым марскім узбярэжжы. Ізумрудныя хвалі нястомна плешчуць у белабетонны парапет, на якім узвышаецца палац.

Трапіць у казіно можа далёка не кожны. І справа не толькі ў даволі высокай цане на ўваходныя білеты. На шляху госця трапляе яшчэ шэраг засцерагальных таблічак-піктаграм: з кінакамерай нельга, з фотаапаратам нельга, з сумачкай, нават дамскай, калі яна крыху большая вызначанага памеру, нельга, у спартыўным абутку накшталт красовак нельга, з сабачкамі, з якімі ў Францыі пускаюць паўсюдна (нават, памятаеце, у фестывальны палац у Кане), нельга... Нельга, нельга, нельга...

Тайны страсцей, што пануюць унутры казіно, не павінны выплываць вонкі!

Перад уваходам у памяшканне масье Аглеардзі яшчэ раз бліснуў лоўкасцю сваіх рук, а іменна: дастаў з кішэнькі зусім збянтэжанай лэдзі Дэмерс пропуск у ігральныя залы, якога там, у кішэньцы, ну ніяк не павінна было быць.

Праўда, калі з намі ішоў Аглеардзі, пропуска ніхто не пытаў. Перад ім паслужліва расступаліся швейцары, лісліва схілялі галовы непрыступныя і пагардлівыя клеркі ў элегантных шэра-блакітных касцюмах і гэткіх жа бабачках. Ці то аддавалася даніна павагі спартыўным заслугам шашачнага маэстра, ці што іншае, але па ўсім было відаць, што Аглеардзі — свой чалавек у казіно. Нават абыякавыя да ўсяго існага круп'е — штатныя банкаўшчыкі рулеткі, што сядзяць у галаве стала, на невялікім узвышэнні, і з ранку да вечара з тупой абыякавасцю круцяць ваўчкі, чакаючы, у якую луначку ўпадзе шарык чужой удачы ці адчаю — і тыя пры выглядзе Аглеардзі выяўлялі на сваіх посных тварах прывітальныя грымасы. Дарэчы сказаць, нешта няўлоўна агульнае ўгадвалася ў абліччы гэтых розных знешне, але занятых адной справай людзей. Здаецца, яго, круп'е, адразу пазнаў бы не толькі пры сустрэчы сам-насам, а беспамылкова вылучыў бы і ў натоўпе. Можа, па празмерна бясстрасным выразе твару, а можа, па нейкіх халодных вачах, у якіх усе былыя страсці і пачуцці ўшчэнт сатлелі, спапяліліся, ці проста размяняліся на нешта таннае — як тыя незлічоныя тысячы чужых франкаў, што плывуць і плывуць праз іх рукі.

Праігнаравала масье Аглеардзі, бадай што, адна маладжавая ды вельмі пыхлівая гардэробшчыца, якая ледзь не гідліва прымала ад нас сціплыя турысцкія курткачкі, спінжачкі, берэты. Не тую публіку прывёў ёй гэты паўнаваты джэнтльмен, не тую. Сапраўдны наведвальнік казіно гэта—ого! Гэта—той, для чыіх адзежак у гардэробе адведзены спецыяльныя кабіны, і чые футры выраблены са шкур звяроў, занесеных у міжнародную Чырвоную кнігу.

А вось і яны, тутэйшыя заўсёднікі: самавітыя, пагардлівыя, пародзістыя, я б сказаў. Паволна паходжваюць па шыкоўных залах казіно, аздобленых персідскімі дыванамі, карэльскай бярозай, атласнай абшыўкаю, пазалочанай лепкай. Усе іх страсці—прагнасць, азарт, зайздрасць, радасць роспач — старанна схаваны пад маскай абыякавасці і ўяўнай годнасці.

Дзелавіта чыкільгаюць да стала дзве сівыя бабулі, падобныя адна на другую, як сёстры-блізняты. Абедзве — у гарнастаевых палярынах, з вылінялымі вачамі, пасінелымі ногцямі, пергаментнай скурай на тварах. І абедзве, падобна, страцілі ўсялякі іншы інтарэс у жыцці, апроч як праматаць рэшткі свайго капіталу ў рулетку.

Цяжка плюхаецца на стул азызлы джэнтльмен з тоўстай цыгарай у зубах. Ён дастае з унутранай кішэні важкі партаманет, вынімае з яго пачак буйной купюры, абыякава кладзе побач з сабой. Гэты, відаць, купіў за свае грошы ўсё. Засталося прыбраць да рук адно пані Удачу.

Звяртаюць на сябе ўвагу мужчына і жанчына сярэдніх гадоў, якія работаюць хаўрусам, хоць і займаюць месцы за рознымі сталамі. Вядуць у блакноціках нейкія графікі, увесь час мяняюцца месцамі, перамаўляюцца больш позіркамі і жэстамі, чымся словамі. Урэшце адзін з іх спакойна падграбае пад сябе банк—недзе за дзве тысячы франкаў. Частку хаўруснікі бяруць грашамі, на астатняе купляюць новыя жэтоны для ставак.

А во малады чалавек (дарэчы, моладзі сярод наведвальнікаў казіно не так многа), з яркай шаўковай хусцінкай пад каўняром кашулі. Гэты ўвесь напружаны, чырвоны, з набрынялай жылаю на шыі і мутнаватымі вачыма. Ён нават не спрабуе прыхаваць свайго нечалавечага жадання выйграць — толькі выйграць! — чарговую стаўку. Шалёна бегае па луначках ваўчка шарык. І ўсё больш чырванее твар маладога ігрока, усё рэльефней акрэсліваецца жыла на шыі. Страты ды страты... І грошай, і надзей...

Колькі ж блакітных мар разбілася тут, у казіно, так, як разбіваюцца аб парапет набярэжнай пад яго сценамі блакітныя хвалі Міжземнага мора.

— Жыццё — гульня, — таямніча гаворыць на вуха масье Аглеардзі, прычым, з такой інтанацыяй, што ў канцы фразы варта было б паставіць не пытальнік, а клічнік.

І гасцінны гаспадар працягвае мне сувенір-напамінак аб наведванні казіно: перламутрава-празрысты чырвоны жэтон для гульні ў рулетку, коштам у 20 франкаў. Я і цяпер захоўваю яго сярод іншых журналісцкіх сувеніраў. Гэты жэтон для мяне, паверце, што кавалачак нейкага марсіянскага грунту ці ўвогуле абломак з іншай Галактыкі, з чужога, невядомага і незразумелага мне свету...

У гэты час у суседняй зале, дзе ўстаноўлены грошавыя ігравыя аўтаматы (іх называюць «аднарукімі бандытамі», маючы на ўвазе масіўныя ручкі для ўключэння барабана і бессаромную здольнасць ненаедна абіраць людзей), чуецца дружны шматгалосы дзявочы енк — як на спартыўнай арэне пасля забітага гола. Паважаныя наведвальнікі казіно, хаваючы нецярплівасць, як бы нехаця, скіроўваюць свае позіркі ў бок нечакана ўзарванай цішыні: няўжо на аўтамаце нехта ўрэшце зрабіў немагчымае і выйграў максімальную суму ў пяцьдзесят тысяч франкаў?!

Высветлілася, аднак, што гэта ўдзельніцы нашай экскурсіі так горача віталі поспех трэнера галандскіх шашыстак шаноўнага рыжабародага доктара філасофіі Фрэнка Тэера, які пасля многіх няўдалых спроб усё ж адваяваў у «аднарукага бандыта» жменьку драбязы — нешта з наш рубель.

Аглеардзі збянтэжана пабег утаймоўваць шашыстак, ратаваць свой непахісны ў казіно аўтарытэт...

Прыгадваю сказаныя ім толькі што словы, успамінаю даўгалыгага палісмена і адзначаю пэўную агульнасць інтанацый, з якой абодва іх вымаўлялі. У гэтай інтанацыі выразна акрэслівалася, апроч іншага, тая тэатральная манернасць, якая ўскосна, але дакладна адрасавала сказанае да вядомага выслоўя вялікага драматурга: «Жыццё — тэатр, і людзі ў ім — акцёры!»

Тры стагоддзі вымаўляецца гэтая фраза не толькі з падмосткаў сцэны, але часта і ва ўжытку, яна ўжо, бачыце, трансфармавалася пэўным чынам, вымаўляецца рознымі людзьмі ў розных сітуацыях і сімвалізуе што ў каго. Адны ўкладваюць у яе нейкі авантурна-агрэсіўны сэнс (маўляў, хочаш жыць — умей круціцца, выгінацца, хітраваць!), другія панура-песімістычны, трэція — проста іранічны...

Дык, можа, і сапраўды жыццё — гульня? Можа... Толькі гледзячы якая. Гледзячы для каго. Гледзячы дзе. Гледзячы калі.

Няўтульна адчувалі сябе дзяўчаты, якія прывыклі ўсталёўваць сваё «я» ў чэснай спартыўнай барацьбе, тут, у казіно, дзе правілы гульні дыктуе каварная рулетка, бяздумны ваўчок з шалёным шарыкам на абадку. Госці заўсміхаліся, загаварылі вольна і свабодна толькі пасля таго — па ўсім было відаць — як выйшлі з памяшкання, удыхнулі свежыя пахі Міжземнага мора.

Вечарэе. У вокнах жыхароў Манака, Кандаміна, Монтэ-Карла запальваюцца першыя электрычныя лямпачкі, а палац казіно літаральна ўспыхвае шчодрай ілюмінацыяй. Сапраўдныя страсці тут, відаць, толькі пачынаюць распальвацца.

Стомленыя ад незвычайных уражанняў, экскурсанты групуюцца ля аўтобуса. Масье Пікар пільна пералічвае іх і, толькі пераканаўшыся, што страт няма, дае вадзіцелю каманду браць курс на Кан.

І вось ужо растае ў прыцемку за вокнамі аўтобуса фігура Аглеардзі з развітальна прыўзнятай рукой. Ледзь праглядваюцца ў месячным святле міжземнаморскія пейзажы.

А на памяць прыходзіць вечар легендарнага шашыста Тона Сейбрандса ў галоўнай зале фестывальнага палаца ў Кане — зале Дэбюсі. Выступаць тут маюць гонар толькі самыя шаноўныя госці Кана. Галандскі шашыст Сейбрандс, ганаровы госць фестывалю інтэлектуальных гульняў, шмат гадоў насіў тытул чэмпіёна свету. Спартыўны і чыста чалавечы аўтарытэт яго заўсёды быў бездакорны. Сейбрандс нязменна ашаламляў сапернікаў прыгожымі і нестандартнымі імправізацыямі на ста шашачных клетках, а самы, бадай, ашаламляльны для канкурэнтаў ход зрабіў, калі добраахвотна склаў з сябе чэмпіёнскія паўнамоцтвы, цалкам аддаўшыся новай справе — журналістыцы і літаратуры. Ён і тут дасягнуў ужо немалых поспехаў.

Увогуле ж, хадоў, вартых павагі, у жыцці Тона было нямала. Чалавек ён не бедны, але жыве даволі аскетычна, можна сказаць, па-спартанску. Мне, напрыклад, расказвалі, як гэты выдатны шашыст, выйграўшы буйны міжнародны Цукровы турнір (названы так таму, што традыцыйна наладжваецца магутнай фірмай па вытворчасці цукру), адмовіўся пайсці на заключны банкет, матывуючы сваю адмову тым, што не мае права на шыкоўны частунак, калі столькі дзяцей у свеце галадае...

І вось Сейбрандс, сціпла расказаўшы пра сябе, пачынае сеанс адначасовай гульні ў шашкі на дванаццаці дошках. Адзін супраць дванаццаці. Прычым — і гэта яшчэ адзін яго ашаламляльны ход! — будзе гуляць усляпую. Значыць, кожны з дванаццаці сапернікаў можа сядзець за дошкай, а ён, Сейбрандс, бярэ на сябе смеласць перабіраць сотні, тысячы, дзесяткі тысяч варыянтаў адно ў сваім уяўленні, не бачачы ні партнёра, ні пазіцыі, а толькі атрымліваючы ходы ў лічбавай натацыі па радыётэлефоне.

За доўгім сталом на сцэне, тварам да гледачоў — як у прэзідыуме — сядзяць, утаропіўшыся ў свае дошкі, дванаццаць апанентаў Сейбрандса. Над кожным з іх — вялікая дэманстрацыйная дошка, дзе паўтараецца ўсё, што адбываецца ў той ці іншай партыі — каб гледачы маглі сачыць за ходам барацьбы.

У левым баку сцэны — агромністы каляровы тэлеэкран, на якім буйным планам прадстаўлены сам сеансёр. Відаць, што ён сядзіць за невялічкім столікам, без дошкі і шашак, у неймаверным напружанні, якое выкрывае даўно патухлая люлька, што ледзь надрыгвае ў левай руцэ. Перад гросмайстрам стаяць некрануты кубачак кавы і пустая попельніца.

І «сляпы» Маэстра, адлучаны ў гэтыя хвіліны ад усяго на свеце, стварае на вачах ва ўражанай публікі дванаццаць твораў адначасна. Сеанс працягваецца амаль дзесяць гадзін. У выніку толькі аднаму сапернiку экс-чэмпіёна свету ўдаецца ўратавацца, зрабіць нічыю, астатніх Сейбрандс бліскуча перамагае.

Гэта сапраўдны трыумф чалавечага духу, волі, інтэлекту!

Жыццё — гульня? Наўрад. Але няхай усё ж людзі гуляюць. У шашкі і шахматы, у футбол і хакей, у тэніс і рэгбі. Людзі розных узростаў, розных прафесій, розных адценняў скуры, розных палітычных і рэлігійных поглядаў. Няхай сапернічаюць адчайна і самааддана, няхай у сумленных паядынках высвятляюць, хто дужэйшы ды спрытнейшы. Урэшце, чым больш яны будуць змагацца на спартыўных арэнах, тым менш часу ў іх застанецца для якіх-небудзь іншых бітваў.

